Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 41 (4841) 16 кастрычніка 2015 г.



## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў работнікаў культуры з прафесійным святам. «Здаўна беларускае мастацтва замацоўвае ідэалы прыгажосці, справядлівасці і дабра, адыгрывае значную ролю ў фарміраванні маральных і эстэтычных каштоўнасцей народа. Сёння мы імкнёмся да таго, каб айчынная культура плённа развівалася на падмурку нацыянальных традыцый, служыла надзейнай асновай для новых пакаленняў стваральнікаў і займала дастойнае месца ў сусветнай культурнай прасторы», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ З 15 па 19 кастрычніка ў Таджыкістане праходзяць Дні культуры Беларусі. У праграме — выступленні Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі, будзе экспанавацца фотавыстаўка пра нашу краіну з калекцыі БелТА.

✔ Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка ўзяў удзел у адкрыцці выстаўкі «Марк Шагал: трыумф музыкі». Экспазіцыя налічвае каля 300 твораў славутага мастака з прыватнай калекцыі сям'і Марка Шагала, парыжскага музея Жоржа Пампіду, нью-ёркскага Музея сучаснага мастацтва, Траццякоўскай галерэі.

✔ Падчас XXII Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад» пры ўдзеле Пасольства Японіі ў Беларусі і Японскага фонду пройдзе рэтраспектыва лепшых кінастужак да 120-годдзя кінакампаніі «Сетыку». Сярод карцін — шэдэўры Акіры Курасава, Сехэй Імамура, Кэндзі Мідзогуці і інш. Прадставіць стужкі гісторык кіно Макіко Камія.

✔ Пабачыла свет другое выданне кнігі «Музеі Полацка», у якой прадстаўлены ўсе 11 музеяў Нацыянальнага полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Можна «зазірнуць» у кожны, каб пазнаёміцца з экспазіцыямі і найбольш выбітнымі экспанатамі, з гісторыяй музейных будынкаў — помнікаў архітэктуры.

✔ Учора ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка айчынных мастакоў Ірыны і Анатоля Кузняцовых «*Privet Picasso&VivalaBarcelona!*». Экспазіцыя падрыхтаваная па выніках паездкі аўтараў у Барселону ў гонар славутых мастакоў XX стагоддзя, якія нарадзіліся ў гэтым горадзе.

✔ У Слонімскім краязнаўчым музеі ладзіцца выстаўка «Слонім — сядзіба муз», прысвечаная 250-годдзю з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага. Прадстаўлены 43 карціны і скульптурная работа — памятны знак «Статут 1588 г.». Творы 15 мастакоў прысвечаны жыццю і дзейнасці Міхала Клеафаса і Міхала Казіміра Агінскіх, беларускім мясцінам. Змешчана і серыя італьянскіх краявідаў.

✔ У Гродне праходзяць здымкі аматарскага камедыйна-забаўляльнага серыяла «STUДЕНЬ» пра жыццё студэнтаў. Гэты незвычайны студэнцкі праект распрацаваны медыяцэнтрам кафедры журналістыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

ISSN 0024-4686

# Шаўковы шлях да Сінявокай

**Асляпляльныя кветкі і ювелірная вышыўка на шаўковых творах моднага мастацтва, размовы пра стварэнне вялікіх культурных цэнтраў, універсальная мова драмы ў выкананні тэатра з Пекіна, экскурсія ў эпоху кіравання дынастыі Чжоу — усё гэта стала часткай Дзён культуры Кітая ў Беларусі, якія прайшлі з 12 па 14 кастрычніка. Дэлегацыю замежных гасцей узначаліў намеснік міністра культуры КНР Дзін Вэй, які сустрэўся з міністрам культуры Беларусі Барысам Святловым.**


*Фота БелТА.*

*Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў і намеснік міністра культуры Кітая Дзін Вэй адкрываюць выстаўку «Цудоўны шоўк».*

### БЕЗ СУПЯРЭЧНАСЦЕЙ

«Дзякуючы гастролям вашых артыстаў, іх удзелу ў кітайскіх фестывалях і форумах, кітайская публіка ўжо добра знаёмая з беларускай музыкай, балетам, мастацтвам. Пасля ўсталявання дыпламатычных адносін партнёрства дзвюх краін развівацца дынамічна і стабільна. Узаемныя візіты кіраўнікоў нашых дзяржаў Аляксандра Лукашэнкі і Сі Цзіньпіна вывелі яго на асабліва высокі ўзровень. Трэба працягваць будаваць мост дружбы. Механізм наладжаны, дастаткова напоўніць яго новымі ідэямі, бо ў нашых краінах найбагацейшая традыцыйная культура, і гэта сапраўды аб'ядноўвае», — сказаў перад адкрыццём Дзён культуры Дзін Вэй.

Барыс Святлоў таксама зазначыў, што гуманітарнае супрацоўніцтва Беларусі і Кітая з кожным годам выходзіць на новы ўзровень. Гэта, на яго думку, абумоўлена адсутнасцю супярэчнасцей і агульнасцю знешняй і ўнутранай палітыкі. «У найбліжэйшы час плануецца стварэнне культурнага кітайскага цэнтра ў нашай краіне. Потым наадварот — беларускага ў Кітаі. Вызначаны і іншыя задачы: наладзіць сувязі паміж міністэрствамі, арганізацыямі па канкрэтных напрамках, падрыхтаваць эканамічную і юрыдычную глебу», — дадаў міністр культуры.

### ВЕКТАР КУЛЬТУРНЫХ КАНТАКТАЎ

Больш падрабязна пра гісторыю і далейшае развіццё адносін дзвюх краін разважалі на сумесным пасяджэнні камісіі па культурным супрацоўніцтве беларуска-кітайскага міжурадавага камітэта. Мерапрыемства адбылося 13 кастрычніка ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Паводле намесніка міністра культуры Кітая, камісія па культурным супрацоўніцтве — гэта новая эфектыўная платформа для каардынацыі сумеснай працы. Спадар Дзін Вэй выказаў свае прапановы па правядзенні сумесных кінематаграфічных і турыстычных фестываляў, узмацненні сувязей паміж музеямі, бібліятэкамі і фондамі, якія адказваюць за культурную спадчыну. «У Кітаі вельмі любяць беларускіх мастакоў і артыстаў. Таму мы запрашаем іх больш актыўна паказваць сябе ў Кітаі», — заклікаў намеснік міністра.

Што яшчэ мае на мэце беларуска-кітайскі гуманітарны вектар? Узаемныя творчыя сустрэчы і гастролі артыстаў, майстар-класы, абмены музычнымі калектывамі, мастацкімі і кніжнымі выстаўкамі, тэатральнымі пастаноўкамі.

Удзельнікі камісіі, сярод якіх — вышэйшыя службовыя асобы дзяржавы, дыпламаты і літаратары, гаварылі і пра ўжо наладжаныя сувязі ў кнігавыдавецкай дзейнасці, літаратуры, супрацоўніцтве на інфармацыйным полі, у сферы масмедыя.

Дарэчы, беларускія друкаваныя выданні культурнага напрамку ахвотна супрацоўнічаюць з кітайскімі майстрамі пяра. У айчынных выдавецтвах рэгулярна з'яўляюцца зборнікі вершаў азіяцкіх творцаў. Хочацца верыць, што ў Кітаі таксама будзе развівацца падобная практыка ў дачыненні да нашых паэтаў, празаікаў і публіцыстаў. Але вернемся да святочнага адкрыцця — чым Кітай здзівіў нас гэтым разам?

Упершыню Пекінскі тэатр народнага мастацтва, адзін з самых буйных у Паднябеснай, выступіў у Мінску. Дні культуры Кітая ў Беларусі стартавалі ярка.


*Фота Кастуся Дробава.*

*Сцэна са спектакля «Наш Цзын Кэ» Пекінскага тэатра народнага мастацтва.*

Чытайце на стар. 8 ▶

# Выбар зроблены!

**Галоўная падзея апошніх месяцаў, несумненна, — выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Грамадства нашай краіны знаходзіцца ў той ступені сталасці, разважлівасці, калі і такая падзея атаясамляецца са звычайным жыццём, праходзіць спакойна і з акцэнтам на штодзённыя клопаты. Так яно, пэўна, і павінна быць.**

***Як ацэньваюць вынікі прэзідэнцкіх выбараў айчынныя пісьменнікі?***

**Генадзь ПАШКОЎ, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

— Выбары — важная падзея ў жыцці дзяржавы. Нельга сказаць, што вынікі выбараў былі нечаканымі: дзеючы Прэзідэнт абраны на новы тэрмін. Увогуле, з сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя, з прыходам Аляксандра Лукашэнкі да ўлады, пачалася свайго роду рэстаўрацыя чалавечага стаўлення да культуры ў цэлым і да літаратуры як да аднаго з найважнейшых складнікаў нашай духоўнасці. Айчынныя творцы неаднойчы сустракаліся з Прэзідэнтам, размаўлялі пра стан айчыннай літаратуры і пра тое, чаго чакае ад яе чытач. А гэта сведчыць пра цікавасць да айчыннага слова і літаратараў на самым высокім узроўні.

**Барыс САВІНАЎ, паэт:**

— Як члену Саюза пісьменнікаў Беларусі мне імпануе прадказальнасць і надзейнасць палітыкі нашага Прэзідэнта. Будучыня Беларусі зноў застаецца ў надзейных руках. Менавіта гэтую лінію імкнуся адлюстроўваць у сваіх творах.

**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ, дзіцячая пісьменніца:**

— Гэта быў адказны момант для ўсёй Беларусі і для кожнага яе грамадзяніна. Вельмі важна, што людзі праявілі актыўную грамадзянскую пазіцыю, пра што сведчыць высокая яўка выбаршчыкаў. Кожны голас меў вагу! Вынікі галасавання паказваюць, чаго хочуць беларусы. Гучна і зладжана мы заявілі сусветнай супольнасці, што выбралі шлях, якім ішлі апошнія два дзесяцігоддзі. Мы мелі магчымасць прыпыніцца, падумаць і вырашыць, куды рухацца далей. Выбар зроблены. А значыць, мы працягваем свой шлях — развіцця, умацавання і ўдасканалення. Будзем разам ствараць гісторыю нашай роднай Беларусі, для нас — лепшай краіны ў свеце.

**Марыя КОБЕЦ, паэтэса:**

— Працуючы рэдактарам аддзела навін Брэсцкага тэлебачання, шмат паездзіла па Лунінецкім, Пінскім, Столінскім раёнах, наведала шэсць участкаў для галасавання — пераважна сельскія. Датэрмінова прагаласавала ці не палова вяскоўцаў! Я шмат гутарыла з простымі людзьмі і бачыла, наколькі адказна яны ставяцца да гэтай важнай палітычнай падзеі. Здаралася, падчас інтэрв'ю нават дзякавалі кіраўніцтву краіны. Людзі ішлі на ўчасткі, добра ўсведамляючы: іх галасы важныя!

***На выбар народа Беларусі, які быў зроблены 11 кастрычніка 2015 года, адгукаюцца нашы творчыя калегі — пісьменнікі з розных куткоў свету.***

**Чынгіз АЛІАГЛУ, паэт, заслужаны дзеяч мастацтваў Азербайджана (Азербайджан, Баку):**

— Беларусь — краіна, якая развіваецца дастаткова дынамічна. Гэта я бачыў на розных прадпрыемствах, у розных гарадах. Часта наведваючыся ў вашу краіну, я радуюся набыткам. Разумею, усё даецца не просты цаной. Для дасягненняў, здабытых вашым народам, патрэбна і мудрая воля кіраўніка, здольнасць зважаць на розныя сацыяльныя групы насельніцтва. І лічу, што вельмі ўдала гэта ажыццяўляе ваш Прэзідэнт — Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

**Слабадан ВУКАНАВІЧ, паэт, перакладчык (Чарнагорыя):**

— Я ганаруся Беларуссю. І сваім сябрам у Чарнагорыі, і калегам у іншых еўрапейскіх краінах часта прыводжу ў прыклад і краіну, і вашы інстытуты ўлады, якім да ўсяго ёсць справа. Віншую Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку з абраннем Прэзідэнтам краіны. Віншую народ Беларусі з правільным выбарам!

Рады, што вы так актыўна развіваеце партнёрства з многімі краінамі свету. Гэта відаць і па стасунках беларускай літаратуры з замежнымі нацыянальнымі літаратурамі.

**Сяргей КАНДЫБОВІЧ, старшыня ФНКА «Беларусы Расіі»:**

— З 1981 года жыву ў Маскве. Але і сёння Беларусь, Мінск — мае родныя куточкі. З Расіі відаць мадэль развіцця Беларусі, відаць, як улады арыентуюцца на просты народ, як уважліва, нягледзячы на самыя розныя складанасці, ставяцца да сацыяльных клопатаў людзей. І гэта я атаясамляю з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам. Рады, што ён ізноў на чале, на капітанскім мосціку Беларусі.

# «Бяседа» з краінай

**Завяршылася маштабная рэспубліканская акцыя «Любіць Беларусь», арганізаваная тэлеканалам «Беларусь 3» сумесна з Рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем «Белая Русь». З поспехам адгрымеў у Палацы Рэспублікі фінальны гала-канцэрт непасрэднага ўдзельніка акцыі — заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь ансамбля народнай музыкі «Бяседа» Белтэлерадыёкампаніі. А напярэдадні ў Вялікай студыі Дома радыё прайшоў музычны брыфінг, дзе артысты і арганізатары сустрэліся з журналістамі, каб падвесці вынікі, адказаць на пытанні, расставіць акцэнты.**



*Ансамбль «Бяседа» вітае ўдзельнікаў музычнага брыфінгу.*

Таццяна Якушава, вядучая брыфінгу, загадчык аддзела музычных праграм галоўнай дырэкцыі Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё, нагадала, што акцыя пачалася напрыканцы жніўня: «Бяседа» выправілася ў творчую вандроўку па краіне.

— З канцэртамі ансамбль праехаў каля 10 тысяч кіламетраў. Выступленні адбыліся ў 18 гарадах, — распавёў дырэктар дырэкцыі тэлеканала «Беларусь 3» Віктар Маючы. — Мы хацелі, каб была ахоплена ўся Беларусь, перш за ўсё абласныя цэнтры.

Прымалі музыкаў як шаноўных гасцей — цёпла, з караваем. Сустрэчы з любімымі артыстамі — чаканая падзея. Усе канцэрты ў рэгіёнах прайшлі з аншлагамі. Кожнае выступленне «Бяседы» — гэта сапраўднае свята, упэўнена Таццяна Якушава. Музыканты працягваюць беларускія нацыянальныя фальклорныя традыцыі. Гэта датычыць і рэпертуару, і выканальніцкай стылістыкі.

— «Бяседа» — сплаў прыгажосці з талентам, які мы збіралі на працягу 25 год, — адзначыў мастацкі кіраўнік ансамбля, народны артыст Беларусі, кампазітар Леанід Захлеўны. — Калі яшчэ выдаса магчымасць паўдзельнічаць у падобнай акцыі, з задавальненнем прымем прапанову.

Артысты турам задаволеныя. Для салісткі Таццяны Лазоўскай, напрыклад, вандроўка прайшла на адным імгненні. Святлана Суседчык яшчэ больш натхнілася роднымі краявідамі. На ўздыме і Валянцін Кірыленка.

«Мы вам жадаем / На ўсім вяку / Лёгка на сэрцы, / Цяжка ў кашальку» — песні ў выкананні «Бяседы» нікога не пакінуць абыякавым.

— Вочы людзей у канцэртных залах гаварылі самі за сябе, — падзяліўся намеснік дырэктара тэлеканала «Беларусь 3» Сяргей Макарэй. Сяргей Віктаравіч падзякаваў калектыву за творчы марафон, а таксама дадаў: «Сёння туры, па сутнасці, распаўсюджаныя: і асобных выканаўцаў, і зборных канцэртаў, але адна справа выканаць адну песню, а зусім іншая — 18 сольных канцэртаў запар за адзін месяц».

Падарожнічала па краіне разам з ансамблем вядучая праграм «Размаўляем па-беларуску» і «Дыя@блог. Пра мову» на тэлеканале «Беларусь 3» Алена Трацэнка. У рамках акцыі яна ладзіла віктарыны на веданне роднай мовы.

— Алена Трацэнка выступала фактычна з канцэртнай версіяй тэлевізійнай перадачы. Размаўляла з залай, правярала веды — гэта было вельмі цікава, пазнавальна, — пракаментаваў дырэктар дырэкцыі тэлеканала «Беларусь 3» Віктар Маючы. — Вялікі дзякуй Выдавецкаму дому «Звязда» і Саюзу пісьменнікаў Беларусі за прадастаўленыя прызы!»

Досвед гэтай акцыі ў далейшым будзе выкарыстоўвацца. «У нас вялікія планы на прапаганду нацыянальнай культуры. Канал «Беларусь 3» паслядоўна робіць захады па распаўсюджванні беларускай мовы. Прыкладам таму — праграма «Размаўляем па-беларуску», і хіт-парад «Сто песень для Беларусі», і вось гэтая акцыя», — падагульніў Віктар Маючы.

Дырэктар таксама агучыў ідэю далейшага супрацоўніцтва з «Бяседай» — зрабіць з ансамблем рэгулярную тэлеперадачу.

**Наталля СВЯТЛОВА, фота аўтара**

# Архіў, адкрыты для гасцей

**У межах святкавання Дня архівіста ў Беларускім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ) адбыліся XIII архіўныя чытанні, прысвечаныя 25-годдзю Беларускага таварыства архівістаў.**

З прывітальным словам да ўдзельнікаў чытанняў звярнулася Вольга Бірукова, першы намеснік дырэктара Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Пленарнае пасяджэнне распачаў кандыдат гістарычных навук, дацэнт БДУ Міхаіл Шумейка, які ў сваім дакладзе «Архівіст у часе і прасторы» звярнуўся перадусім да пытанняў этычнага кодэкса архівіста, адкрытасці архіваў і іх вобраза ў масавай свядомасці, а таксама да праблемы іміджу і прэстыжнасці прафесіі архіўнага супрацоўніка. Дырэктар архіва Ганна Запартыка ў сваім выступленні пазнаёміла аўдыторыю з фондамі БДАМЛіМ, апрацаванымі ў 2014 — 2015 гг., якія змяшчаюць дакументы архівіста і даследчыка Віталя Скалабана, журналіста і публіцыста Яфіма Садоўскага ды інш. Падчас секцыйных пасяджэнняў шмат гаварылася пра асвятленне жыцця і дзейнасці беларускіх архівістаў: А. М. Плешавені, В. У. Скалабана, А. В. Вараб'ёва, архіварыусаў нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, кіраўніцтва Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці ў 1920 — 1930-ыя гг.

А яшчэ ўдзельнікі чытанняў мелі магчымасць азнаёміцца з выстаўкамі, прысвечанымі ўгодкам выбітных беларускіх літаратараў: «Летапісец векапомных дзён» (да 115-годдзя Міхася Лынькова), «Узнясіся песняй к храству…» (да 115-годдзя Уладзіміра Жылкі), «Трымаюся бліжэй да перажытага» (да 90-годдзя з дня нараджэння Івана Навуменкі), «Да 90-годдзя беларускага кіно».

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел не толькі архівісты-прафесіяналы, але і даследчыкі іншых галін, якія падрыхтавалі свае даклады паводле архіўных матэрыялаў. Такім чынам, архіўныя чытанні ў БДАМЛіМ яшчэ раз прадэманстравалі адкрытасць архіваў і іх асветную ролю ў жыцці грамадства.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці выдатнага беларускага пісьменніка Алеся Ануфрыевіча САВІЦКАГА і выказвае спачуванне сям'і і блізкім літаратара з прычыны напаткаўшага іх вялікага гора.

# Святлана Алексіевіч — лаўрэат Нобелеўскай прэміі

Вось ужо тыдзень, як Беларусь мае свайго Нобелеўскага лаўрэата ў галіне літаратуры.

### СЛОВА ЯЕ

Навіна пра прысуджэнне Святлане Алексіевіч Нобелеўскай прэміі па літаратуры адначасова і нечаканая, і быццам бы і не навіна. З аднаго боку, пісьменніца другі год запар знаходзілася ў спісе фаварытаў Нобелеўскага камітэта. І кнігі яе — не толькі здабытак беларускай літаратуры, постсавецкай літаратуры, але і дакументальны помнік, значнасць якога распасціраецца на ўвесь сучасны свет, на чалавечую цывілізацыю ўвогуле.

З іншага боку, з вялікай цяжкасцю верылася, што гэта спраўдзіцца насамрэч.

І — вось.

Найлепшай ілюстрацыяй да сітуацыі паслужаць словы самой Святланы Алексіевіч: «Прыехала з лецішча ў Мінск. І тут за некалькі хвілін да таго, як пра гэта даведаліся ўсе, мне патэлефанавалі з Нобелеўскага камітэта. Я ў той момант прасавала адзежу». Пэўна, усе мы ціха спадзяваліся, але хвалі надзею за «прасаваннем адзежы».

На прэс-канферэнцыю, арганізаваную стыхійна, пісьменніца прыехала надзвычай узрушаная. Але і ў такіх абставінах яна паўтарала свае «запаветы» пра неабходнасць заставацца чалавекам, пра архетыпы «кат — ахвяра», пра савецкае мінулае, якое не адпускае і сёння.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Святлану Алексіевіч з прысуджэннем Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 2015 год. «Ваша творчасць не пакінула раўнадушнымі не толькі беларусаў, але і чытачоў у многіх краінах свету», — адзначыў Прэзідэнт. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў: «Шчыра рады за Ваш поспех. Вельмі спадзяюся, што Ваша ўзнагарода паслужыць нашай дзяржаве і беларускаму народу». Прэзідэнт пажадаў Святлане Алексіевіч здароўя, шчасця і новых творчых дасягненняў на карысць роднай Беларусі.

«Я чалавек беларускага свету. У той жа час я выхаваная па рускай культуры. І я касмапаліт. Асабліва пасля Чарнобыля я стала адчуваць сябе касмапалітам».

«Я кажу тое, што думаю. Я люблю рускі народ, беларускі народ… Мае родзічы па бацькоўскай лініі — беларусы. Я ў чацвёртым пакаленні дачка сельскіх настаўнікаў. Мой прадзед вучыўся з Якубам Коласам. Я адчуваю, што гэта мая зямля. У той жа час мая маці — украінка, і я вельмі люблю Украіну».



«Я ведаю беларускую мову, але не так добра, каб на ёй пісаць. Тая мова, якую я ведаю, — «наркамаўка». Мяне ёй навучылі ў школе, але гэта не тая мова».

«Я ўдзячная Адамовічу і Быкаву за прыклад і маральны ўзор. Цяжка быць сумленным чалавекам у наш час. Давайце разам рабіць усё так, каб мы жылі ў годнай краіне».

«Як патрачу прэмію? За грошы я куплю сабе волю. Гэтая прэмія дасць мне сродкі, каб жыць і пісаць наступныя кнігі. Я падоўгу пішу кнігі — пяцьдзесяць гадоў — вялікі прамежак часу».

«Не люблю, калі цябе пазнаюць: ты чалавек, ты можаш быць розны, стомлены, напрыклад. Але ёсць хвіліны, калі думаеш: тое, што ты робіш, чапляе чалавека. Калі б яму было ўсё адно, ён бы не падбег да цябе з пачкам ад цыгарэт» (у Берліне да пісьменніцы звярнуўся прыхільнік яе творчасці, які, не маючы паперкі для аўтографа, працягнуў пачак ад цыгарэт. — **Н. Г.**).

«Ёсць Біблія, і Францыск Асізскі, і Антоній Суражскі. А чалавек усё той жа. Але хочацца думаць, што нешта змяняецца. Хоць падзеі ў Данецку мяне асабіста напалохалі: як хутка злятае культура і вылазіць звер у чалавеку. Калі мы пакінем сваю справу, стане толькі горш. "Гора мне, калі я перастану прапаведаваць"».

### СЛОВА ПРА ЯЕ

Уганараванне беларускага пісьменніка Нобелеўскай прэміяй — вялікае свята для ўсіх, хто адчувае сваю далучанасць да нацыянальнай культуры.

Вядома, асновай для кніг Святланы Алексіевіч быў не толькі беларускі матэрыял: Вялікая Айчынная вайна, Афганістан, Чарнобыльская катастрофа — усё гэта стала трагічнымі падзеямі для многіх жыхароў Савецкага Саюза. Маштаб праблем, да якіх звярталася пісьменніца, робіць яе творчасць з'явай не толькі рэгіянальнай, але і сусветнай літаратуры.

У цэнтры ўвагі Святланы Алексіевіч — чалавек, істотны найперш сваёй памяццю і пачуццямі, а не паходжаннем ці адукацыяй. Усе сацыяльныя характарыстыкі дапамагаюць зразумець светапогляд асобы, але не маюць значэння, калі даводзіцца згадваць пра страты, выказваць смутак і душэўны боль. Наша літаратура заўсёды была гуманістычнай, і радыкальныя канцэпцыі, для якіх жыццё канкрэтнага чалавека апынаецца неістотным, ніколі не знаходзілі падтрымкі ў сталых беларускіх аўтараў.

Наданне Нобелеўскай прэміі Святлане Алексіевіч — гэта і прызнанне значнасці мастацка-дакументальнай прозы, значнасці кожнага голасу, у якім так часта чуецца гаркота і расчараванне.

Многія сучасныя людзі не мелі асабістага дачынення да катастроф XX стагоддзя. У кнізе «Час сэканд-хэнд» Святлана Алексіевіч ставіць пытанне пра тое, як зрабіць сённяшні мультыкультурны свет утульным для розных людзей, як навучыцца паважаць памкненні і здзяйсненні адзін аднаго, стварыць грамадства, дзе кожны пачуваецца ўпэўнена і разам з тым здольны падтрымаць іншага.

Творчасць Святланы Алексіевіч дапамагае не толькі асэнсаваць мінулае, але і вызначыць сваё стаўленне да сучаснасці і будучыні, што заўсёды істотна для разумнага і адказнага чалавека.

**Наста ГРЫШЧУК,**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**З інтэрв'ю старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца інтэрнэт-парталам:**

«Гэтая Нобелеўская прэмія — пацвярджэнне заслуг усёй беларускай літаратуры. Святлана ўвянчала гэтыя заслугі. У Саюзе пісьменнікаў Беларусі рады, што пра беларускую літаратуру гавораць у свеце. Думаю, што гэтая паспяховая падзея прыцягне цікавасць да айчыннай літаратуры, тым больш што за апошняе дзесяцігоддзе з'явілася шмат цікавых твораў.

Не падтрымліваю пазіцыю тых, хто крытыкуе Алексіевіч за тое, што яна піша на рускай мове, і не згодны з меркаваннем, што сапраўды беларускім можна лічыць толькі беларускамоўнага пісьменніка.

Кожны пісьменнік, які жыве і піша ў Беларусі, з'яўляецца беларускім пісьменнікам, сваёй творчасцю ён падымае аўтарытэт усёй краіны. Зразумела, у любой сітуацыі Алексіевіч — беларускі пісьменнік».

**З віншавання Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь:**

«Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь віншуе Вас, паважаная Святлана Аляксандраўна, з прысуджэннем Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 2015 год. Дзякуючы Вашым таленавітым творам, якія глыбока і тонка раскрываюць духоўны свет людзей, Беларусь у галіне літаратуры прагучала на ўвесь свет. Жадаем Вам новых творчых поспехаў, здароўя і дабрабыту».

**З віншавання Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь:**

«Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь шчыра віншуе Алексіевіч Святлану Аляксандраўну з атрыманнем высокай узнагароды — Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Жадаем здароўя і дабрабыту, невычэрпнага натхнення, новых творчых планаў і дасягненняў на карысць айчыннай культуры».

# Вітанне Нобелеўскаму лаўрэату і ўсяму народу Беларусі

**Прысуджэнне Святлане Алексіевіч высокай літаратурнай прэміі стала падзеяй сусветнага маштабу. У Беларусь прыходзяць водгукі з розных краін свету. Некаторыя з іх, якія патрапілі на інтэрнэт-партал «Сугучча» («Созвучие: литература и публицистика стран СНГ»), прапануем увазе чытачоў «ЛіМа».**

**Рыма Ханінава, паэтэса, перакладчык, літаратуразнаўца (Расійская Федэрацыя, Калмыкія, Эліста):**

— Прысуджэнне Нобелеўскай прэміі па літаратуры Святлане Алексіевіч — доўгачаканая і радасная падзея для айчыннага мастацкага слова, бо Алексіевіч піша па-руску. І для мяне яна знаходзіцца ў адным шэрагу з Іванам Буніным, Барысам Пастарнакам, Міхаілам Шолахавым, Аляксандрам Салжаніцыным, Іосіфам Бродскім! Шматгалосая творчасць пісьменніка — сапраўды помнік міласэрнасці і мужнасці нашых народаў, якія прайшлі суровыя выпрабаванні ў гады Вялікай Айчыннай вайны, сталінскіх рэпрэсій, але не страцілі веру ў дабро і справядлівасць ісціны. Прысуджэнне гэтай прэміі беларускай пісьменніцы для мяне асабліва дарагое, паколькі мой бацька, калмыцкі паэт Міхаіл Хонінаў, якога ў гады вайны называлі Мішам Чорным, абараняў Беларусь ад фашыстаў. І я ўяўляю, як бы ён ганарыўся, што менавіта беларускай жанчыне прысудзілі такую высокую ўзнагароду.

**Севіндж Нурукызы, празаік, паэт, перакладчык (Азербайджан, Баку):**

— Ад імя азербайджанскіх пісьменнікаў я віншую беларускі народ! Гэта вялікая ўзнагарода — мара кожнага пісьменніка. Беларуская пісьменніца атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры 2015 года. Пастаянны сакратар Шведскай акадэміі Сара Дананіус выдала дакладнае вызначэнне гэтаму ўзнагароджванню: «За яе паліфанічныя творы, помнік пакутам і мужнасці ў наш час». Так, Святлана Алексіевіч — сапраўды добры пісьменнік, патрыёт і абаронца інтарэсаў чалавецтва. «Свае кнігі я выглядваю і выслухоўваю на вуліцах. За акном. У іх рэальныя людзі расказваюць пра галоўныя падзеі свайго часу — вайна, развал сацыялістычнай імперыі, Чарнобыль, а ўсе разам яны пакідаюць у слове гісторыю краіны, агульную гісторыю. Старую і найноўшую. А кожны — гісторыю свайго маленькага чалавечага лёсу», так апісвае свой творчы працэс Святлана Алексіевіч, даследчыца чалавечай душы і быцця. Яна з'яўляецца летапісцам нашага часу, чалавекам, які ведае і па-мастацку рэльефна апісвае жыццё сучаснага чалавека.

**Гаа Ман, перакладчык, літаратуразнаўца, мастак (Кітай, Пекін):**

— Я і раней, з абмеркаванняў набеліянтамі і шведскімі акадэмікамі, ведаў, верыў, што Святлане Алексіевіч прысудзяць прэмію. У Кітаі добра вядомая яе творчасць на кітайскай мове. Кнігі Святланы Алексіевіч перакладаюцца на кітайскую болей як чвэрць стагоддзя. І сёння — мне расказваюць, бо я па ўзросце ўжо не выходжу на вуліцу, — у транспарце можна сустрэць моладзь, якая чытае «Чарнобыльскую малітву» ў адным з новых выданняў. Відавочна, што чытача ў кнігах, дарэчы, адну з якіх і я пераклаў на кітайскую мову, прыцягвае праўдзівасць, жаданне адлюстраваць сучаснасць ва ўсіх яе праявах. Вельмі шчымлівая, часам да болю пранізлівая мастацкая праўда пра час ідзе з кніг лаўрэата Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ



## Дзіва роднай зямлі

Ёсць у нашага выдатнага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча такія вершаваныя радкі: «У нас дваццаць з лішнім тысяч рэк, адзінаццаць тысяч азёр...» Яно сапраўды так. Блакітная краса Беларусі, наша спадчыннае дзіва — апетыя ў песнях і ўвекавечаныя ў легендах і паданнях Дняпро і Нёман, Прыпяць і Сож, Бярэзіна і Заходняя Дзвіна, Вілія і Свіслач, Шчара і Друць, Нарач і Свіцязь. Вялікія рэкі і азёры на слыху ў кожнага беларуса, у кожнага жыхара нашай сінявокай старонкі, мілай сэрцу Бацькаўшчыны.

Але ж ёсць і рачулка маленства, сваё азерца, што цешаць сэрца прыемнымі ўспамінамі, здзіўляюць незвычайна прыгожымі, паэтычна-непаўторнымі назвамі. Усе гэтыя рачулкі і азерцы могуць падарыць сваю казку, радасць, красу. Толькі б умець слухаць іх, разумець.

Такімі я і хацеў паказаць іх у сваіх легендах, паданнях, вершах, скорагаворках і загадках, што сталі зместам маёй новай паэтычнай кнігі «Матуля Шо, дачушка Шоша», якая ў хуткім часе павінна выйсці ў выдавецтве «Народная асвета».

Тадора ШПІЛЬКА



## Няўрымсная Гарынь

*Там, дзе горныя вяршыні*
*Падпіраюць неба сінь,*
*У суседняй Украіне*
*Свой разбег бярэ Гарынь.*

*Расцугляная разводдзем,*
*Стрымгалоў ляціць уніз.*
*Вербаў голле,*
*Як паводдзе,*
*Не ўтрымаць на быстрыні.*

*Як Гарынь сцішэе трохі,*
*Зноў увойдзе ў берагі —*
*З воднай вызваліць аблогі*
*Агароды і лугі.*

*Зноў аддасць бабрам і вёслам*
*Прыбярэжжы, плёсаў плынь,*
*Зноў сінечаю дзівоснай*
*Гляне ў вочы зор Гарынь.*

*Закалыша ў хвалях поўню,*
*Сонца ўзыдзе —*
*І яна*
*З ім сяўнёй рассыпле промні,*
*Прасвятліўшыся да дна.*

*Задуменна над табою*
*Хіляць шоламы бары,*
*Каб сваёю цішынёю*
*Сцішыць нораў твой, Гарынь.*

*Ён жа ўсім даўно вядомы:*
*Ты — няўрымсная заўжды,*
*Мчыш, не ведаючы стомы,*
*Мчыш праз гоні, праз сады.*

*Як паводкі адгалосак,*
*На пяску —*
*Чаўны ў журбе.*
*Рыбакам наўкольных вёсак*
*Ці ж світанні без цябе?*

*Ходзіць хваляй*
*Збожжа ў полі,*
*Слаўны працай той куток:*
*Пачынаў «Дажынкі» Столін —*
*Над Гарынню гарадок.*

## Размова з Ліпаю

*Жарт быў:*
*Ліпу можа певень выпіць...*
*Можа, пасмяяўся хто дарма?*
*Хоць ты, Ліпа, —*
*Не Дняпро,*
*Не Прыпяць,*
*Ды ў мяне радней цябе няма.*

*Помню ж я цябе такою:*
*Летам —*
*Гадавала плотак, акунькоў,*
*А зімой —*
*У крохкі лёд адзетай,*
*Срэбная, звінела ад канькоў.*

*А вясна прыходзіла —*
*Ад крыгаў*
*Ускіпала, пад мастком гула...*
*Я спыняўся,*
*Слухаў крыгаў скрыгат,*
*Што паводка сцішыць не магла,*
*І жахаўся:*
*Раптам крыгаходам*
*Мост з быкоў, як той пытток сарве!*
*Як жа ў школу дабірацца потым,*
*Мост жа разам з крыгамі сплыве?!*
*Ты, напэўна, Ліпа, крыўдавала:*
*Як і ўсе, канавай называў.*
*Ты ад крыўды, мусіць, бушавала —*
*Волю крыгалом табе даваў...*

*Да цябе прыйшоў зноў на сустрэчу,*
*Сярод вёскі ў роздуме стаю:*
*Дзе той мост,*
*Што рыпаў па-старэчы?*
*Берагоў тваіх не пазнаю.*

*Ні аер не сцеражэ, ні лотаць,*
*Ні алешнік — сціплы ціхадум.*
*Змоўкла ты,*
*Як зніклі ў нас балоты,*
*Дзе калісьці чэрпала ваду.*
*Ды я рады, нібы ў сне салодкім:*
*Ты жывеш,*
*Працяг збярогшы ўсё ж,*
*Недзе там даеш прыволле лодкам*
*І з табой сустрэчы рады Сож.*

*Даравання, Ліпа, я праз далеч*
*За сябе, за землякоў прашу:*
*Як завуць цябе —*
*Не ўспаміналі,*
*А любілі болей за красу...*

*Жарт быў:*
*Ліпу можа певень выпіць...*
*Пасмяяўся ж нейкі балабон!*
*Хоць ты, Ліпа, —*
*Не Дняпро,*
*Не Прыпяць,*
*Ды цябе не вып'е нават слон!*

*Калі век, што прамінуў, не выпіў,*
*Калі ў сіле сэрца ўзварушыць,*
*Не была ты ліпаваю Ліпай,*
*Ты была пасланніцай душы.*

*Значыць, трэба ты зямлі і людзям,*
*Раз, бязводдзе зведаўшы, жывеш...*
*Хай табе маёй данінай будзе,*
*Хоць запознены,*
*Ды гэты верш!*

## Трэмля дрэмле...

*Можа здацца:*
*Трэмля дрэмле,*
*Не спяшаецца яна.*
*Размарыла сонца Трэмлю,*
*Плёс прагрэўшы аж да дна?*

*Паляшучкай сарамлівай*
*Трэмля тоіцца ў палях.*
*Ёй да Прыпяці імклівай*
*Не здалець за суткі шлях.*

*Як дзяўчо, прыдбаўшы ўборы —*
*Вольхі з вербамі ў расе,*
*Хараство сваё ў прасторы*
*Трэмля сціплая нясе.*

*Хто вандроўна дабярэцца*
*Да красы такой сюды —*
*З цеплынёй сваёю*
*сэрца*
*Тут пакіне назаўжды.*

*Трэмля лечыць і чаруе,*
*Ды настрой былы прыглух:*
*«Сумна мне —*
*Даўно не чую,*
*Як пяе ў ражок пастух.*

*Мастакі ўсё менш у госці*
*Ездзіць сталі ў гэты кут,*
*Быццам страціла я штосьці,*
*Быццам ім нялюба тут.*

*А было ж: сюды штогодна*
*Вабіў край, мне дарагі.*
*Берагі ад іх палотнаў*
*Расцвіталі, як лугі.*
*Хараства на ўсіх хапала,*
*Як і фарбаў, і свята.*
*Можа, я пачварней стала,*
*Не такою, як была?..»*

*У лугах блукае Трэмля,*
*Спеў яе чуваць ледзь-ледзь.*
*А чаму там Трэмля дрэмле,*
*Ты мо ведаеш, Мядзведзь*?*

* Мядзведзь — рака, прыток Трэмлі.

## Каля Радуні — Радунька-рэчка...

*Ёй не суджана быць быстрацечкай.*
*Як струна, на цымбалах палёў,*
*Каля Радуні —*
*Радунька-рэчка*
*Чуйна слухае зумкат чмялёў.*

*А прамчыцца над рэчкаю вецер,*
*Скалыхнуўшы задумнасць кустоў,*
*І алешын сасмяглае вецце*
*Спаласне ў ёй далоні лістоў.*

*Вербалозаў ссівелыя косы*
*Акунуцца ў нагрэты спакой,*
*Разгайдаюць арэлі стракозы,*
*Як цыркачкі,*
*Над цёмнай вадой.*

*На здзіўленне карасікам, плоткам,*
*Што стаіліся ў сховах вады,*
*Будуць бліскаць убраннем зіхоткім,*
*Быццам клікаць: «Вылазьце сюды!»*

*Шапатне бераг*
*спелым аерам —*
*І з глыбіняў па волкай траве*
*Выйдуць цені пагрэцца на бераг,*
*Прахалода ў затокі сплыве.*
*А яны тут —*
*як шыбіны вокан,*
*Вудзіць срэбра ў затоках дзятва,*
*І зялёным падміргвае вокам,*
*Як сяброўка, ёй рэчка Дзітва.*

***

вандруюць па венах словы
адрэналінам
хто прыдумаў што клін
выбіваюць клінам
растае як лядзяш
фюзеляж
бяспекі
як у хворага пад языком лекі
сцяной снегу ляціць на мяне
хто ніколі рукой не кране
па той бок люстранога экрана
і завея кладзецца бальзамам на раны
цераз рэшата рванай душы
мой Saint Angel з нябёсаў мне ліст
напішы

## Сяргею Палуяну

на здымку старым
па мянушцы Адзін
свой точаны профіль хавае ў труне
і кветках

у полымі свечак
плавіцца вечнасць
калі філіграні ценяў
як слёзы сцякаюць па сценах

...ты думаў пятля ад тугі захіне
ад суму па светласці і красе
і выцісне горыч з саставу крыві?

бяссільныя словы лятуць наўздагон
з сэрцам маім ва ўнісон
дыхай! свяці! жыві!

душа вызваляецца ад пакуты
і рабства злятаюць путы
з яе
калі адчуваю:
ты бачыш мяне

***

на клавішах белых бязважкія рукі
дакладныя рухі прамыя абрысы
і поўніцца сэрца няўлоўнае мукі
спатканняў, размоваў. любімыя рысы

нібы выразае з мінулага скальпель
ты зноў ажываеш мой вечны вандроўнік
і нас накрывае фатальная бездань
сустрэчнага позірку... твар у далонях

***

кажан разрывае прастору на дзве
у адной ты ёсць а ў іншай — не
палёт кажана — у вечным памежжы
...размытымі робяцца межы
вар'яцтва і не-
вар'яцтва
чым болей да іх набліжацца
так, разумееш:
у вечным жывеш памежжы

***

Вы падобны на Восень паверце
вачыма колеру лёгкай смерці
і ў іх безнадзейнаю дабрынёю
самоты душэўнае вастрынёю
кантрастам між знешняю халадэчай
і цёплай палітраю сэрца... каштанаў
свечкі
гарацьць нападледак успыхнуўшы ярка
на фоне блакіту нябёсаў і шпарка
згасаюць каб у шкілеты ператварыцца
а Восень падобна на Вас да драбніцы



Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ

# Яблыкі

Бывае сяброўства між роднаснымі душамі, сапраўдная повязь розумаў, калі думаецца на адзін лад, калі разам хораша нават і памаўчаць. Гэта сяброўства залатое, апетае ў паэзіі ды прозе яшчэ са старажытных часоў. Бывае сяброўства, крута замешанае на спаборніцтве, калі адзін аднаго падбухторвае, і штурхае, і пхае далей, калі кожны — дзеля ўвагі другога — здольны хоць па столі скакаць. Гэтае — сярэбранае. Для высокай паэзіі пасуе, можа быць, меней, але, па вялікім рахунку, ніштавата.

Але ўсе дзеці ведаюць, што ёсць яшчэ адно, прыдуманае дарослымі, пакутлівае, вымучанае — сяброўства дзеля зручнасці. Сяброўства з разраду «жывяце поруч, то й цягайцеся разам». Сяброўства меднае. Ды і медзь тая, трэба сказаць, не самага лепшага гатунку: паспрабуеш на зуб — і зломіцца.

Нам — мне і Наталцы — не пашчасціла. Мы вучыліся ў адным класе і жылі амаль побач. Побач — значыць праз тры двары, ад адной шматпавярхоўкі, рудой, да другой, малінавай. Гэта быў прысуд.

І схапілі, і скавалі ў ланцуг, і загадалі гэтаму ланцугу радавацца.

— Як цудоўна! — з імпэтам казалі нашы бацькі. — Будзеце сябраваць!

Наталка глядзела на мяне са змрочным сумневам. Я на яе — гэтаксама. Так бурлак, відаць, глядзіць на суседа па абрыдлай лямцы. Адным словам, адна адной мы не дужа падабаліся. Але «сябравалі» — хадзілі разам у школку і разам жа вярталіся. Размаўлялі мала, бо асабліва не было пра што.

— А я чытала, што каштан можа ўпасці чалавеку на галаву і скалечыць на ўсё жыццё.

— Угу.

Ішлі якраз вераснёвымі каштанавымі алеямі. Скоса пазіралі адна на адну і ўпотай чакалі таго самага каштана. Не для сябе, вядома. Для сябра.

Канечне, калі мы пазнаёміліся трохі бліжэй, усё змянілася. Цалкам. Дакладней, непрыязь перарадзілася ў суцэльна іншае, але па-ранейшаму моцнае, глыбокае, нястрымнае і, самае галоўнае, узаемнае пачуццё. У пагарду вышэйшай пробы.

Нас прымушалі хадзіць адну да адной на дні нараджэння, падпісваць карткі ды прыносіць падарункі. Цяжка выбраць падарунак любімаму чалавеку, але стакроць цяжэй купіць хоць нешта для таго, кім зусім не цікавішся. Дасюль у мяне ў кніжнай шафе стаіць падораная Наталкай барвовая Лідзія Чарская з яе смешнымі маленькімі інстытуткамі, якія штохвіліны або страчваюць прытомнасць, або заломліваюць рукі ў істэрыцы, або стаюцца бязвіннымі ахвярамі якой-небудзь жудаснай змовы. І гэта ў той час, калі я досыць сур'ёзна рыхтавалася зрабіцца слынным касманаўтам і часта румзала ад крыўды, бо мой стрыечны брат, старэйшы за мяне на цэлы год і таму чалавек абазнаны ды аўтарытэтны, казаў, быццам дзяўчат у космас не бяруць.

У безнадзейным, але настойлівым памкненні зрабіць нашае сяброўства яшчэ больш моцным бацькі ўпарта запісвалі нас у адны і тыя ж клубы ды секцыі. Ва ўсякім разе, спрабавалі. Так, напрыклад, мы з Наталкай апынуліся ў тэатральным гуртку. Агледзеўшы і праслухаўшы нас, кіраўніца дала ролі абедзвюм: Наталцы — Снягуркі, мне — Мядзведзя. Новаспечаная Снягурка толькі з'едліва ўсміхалася, гледзячы на мае плюшавыя вушы, рукавічкі і спаднічку з мядзведжым хвосцікам.

У гэтым сваім адмысловым плюшавым строі я выходзіла, станавілася ў трэцюю балетную пазіцыю і, заламіўшы рукі не горш за гераінь Чарскай, чытала свой маналог з шэкспіраўскім надрывам і інтанацыямі тэатральнай прымы:

— Тупу!.. Тупу!.. Тупу!.. Нясе Мішка ступу!

Гледачы, маленькія акцёры, нават сама кіраўніца гуртка, — усе дружна складваліся напалам і рагаталі голасна і доўга, да слёз. Наталка, якая ўрэшце выйшла з дзвюма рэплікамі пад самы канец, вельмі абуралася, што на яе ніхто так і не звярнуў увагі:

— Я ж прыгажэйшая за цябе!

Яна сапраўды была значна прыгажэйшаю. Гэта я, трымаючыся справядлівасці, прызнавала.

Наталчына бабуля жыла ў вёсцы на Украіне, там жа Наталка бавіла амаль усё лета. І адтуль прывозілі: Наталка — цэлы пук баек пра дасціпную бабцю і вёску, яе бацькі — садавіну, і гародніну, і мяса з кілбасамі, і яшчэ бог ведае што. Гэтае поўнае самавітых прыгод падарожжа і тая загадкавая вёска, дзе на Купалле Наталка бачыла сапраўдную ведзьму, дазвалялі маёй сяброўцы глядзець на мяне — гарадскую — трохі звысоку. Гэтаксама звысоку яна ставілася і да «пакупной», дакладней, як і я, гарадской садавіны з гароднінай, салідна заўважаючы з перанятай у старэйшых інтанацыяй:

— Там жа спрэс адна хімія.

Натуральна, уся дарослая саліднасць размовы падобнымі рэплікамі скасоўвалася, і Наталка моршчыла нос ды пагардліва крывіла вусны. Яе несуцяшальнае меркаванне пра маю сціплую асобу заставалася ранейшым.

Яна кожны дзень брала з сабою ў школу яблыкі — чырванашчокія, пекныя, духмяныя, ледзь не ўдвая большыя за ўласны кулак. Задуменна хрупала, пакуль мы вярталіся дамоў, падобныя да дзвюх чарапашак з-за нагружаных падручнікамі ды сшыткамі велізарных ранцаў.

Толькі аднойчы, надкусіўшы яблык, Наталка нейк схамянулася, вохнула і пачала корпацца ў кішэні школьнай торбы.

— Што ж гэта я так? — сказала вінавата. — У мяне ж яшчэ адзін ёсць.

Я здзіўлена прыўзняла бровы, а Наталка між тым працягвала.

— Вось гэты, — паказала мне на далоні надкусаны яблык, — ён ажно зімні, не такі смачны. А вось гэты, — жэстам фокусніка дастала яшчэ адзін, — ну такі салодкі, такі салодкі, ты проста не ўяўляеш!

— Ого, — сказала я.

— Ага, — азвалася Наталка.

Усміхнулася сонечна і з храбусценнем адкусіла ад знойдзенага надзвычай салодкага яблыка ледзь не палову. Так і ела адразу два, падносячы іх па чарзе да рота і адмыслова працуючы сківіцамі. Паглядала на мяне ўпершыню не з'едліва ці з пагардаю або непрыязна, а досыць паблажліва, са спакойнай і цалкам шчаслівай усмешкай. І прымружаныя вочы быццам бы гаварылі: «Што? А? З'ела? Ну?»

І два гэтыя непамерныя яблыкі ў яе руках, і самы тварык, выпацканы яблычным сокам, былі такімі смешнымі, што я — таксама без пагарды ці з'едлівасці — усміхнулася ў адказ.

***

Ланцуг навязанага сяброўства перарваўся даўно. Мы з Наталкай не бачыліся шмат гадоў, ды і, відаць, цяпер ужо не пазнаем адна адну, сустрэўшыся на вуліцы. Але памяць пра дзяўчынку з яблыкамі жыве ўва мне дасюль.

Ведаеце, медзь каштоўная хаця б тым, што дзякуючы ёй пачынаеш разумець цану і срэбра, і золата.

# «Зямля»

Палачкай трэба намаляваць на зямлі кола. Вялікае, каб на ўсіх хапіла, і роўнае, прыгожае. Бяруцца за рукі двое — адзін у цэнтры стаіць, схапіўшыся моцна, другі шпарка ходзіць вакол яго на кукішках, трымаючы ў свабоднай руцэ палачку. Упрост, як ні пагляздзі, чалавечы цыркуль. І лінія атрымліваецца адмысловая, і кола выходзіць не трохкутнікам якім-небудзь і не расцягнутым касабокім ромбам, а такім поўным і ладным, як належыць.

Вялікае кола — «Зямля». У самым цэнтры, у самым сэрцы яго — кола маленькае. «Сонца». І вось на гэтым самым дробным сонцы, закусіўшы ад стараннасці вусны, малюем пяцёрку. Сонца з той прычыны атрымліваецца меченае — ці то з пробаю (як на залатых упрыгожаннях), ці то з серыйным нумарам.

А вакол, за акрэсленай палачкаю лініяй, — «Космас», няведаны, небяспечны ды бясцішны. Толькі што яго не было, але як толькі замкнулася кола, як толькі з'явілася «Зямля», тут жа каршуком паў ён, і абкружыў, і аблёг.

Ад пачатку «Зямлю» дзеляць чэсна. Па справядлівасці. Колькі гульцоў — столькі і аднолькавых надзелаў, падобных да кавалачкаў торта. Той, хто праводзіць межы, можа, канечне, паспрабаваць схітрыць і трохі пашырыць свой уласны надзел. За кошт іншых. Але астатнія феадалы, апроч, можа быць, самых дробных, сочаць за ім досыць уважліва і, як што не так, гучна абураюцца. А ад усеагульнага абурэння недалёка і да поўхі-другой. Феадальная справядлівасць — яна такая.

Выбіраюць плоскі каменьчык, не вялікі, але і не дужа маленькі. Абы быў зручны. Часам такі вось зручны каменьчык пасля гульняў акуратна адкладаюць куды-небудзь пад дрэва ці турнік, каб у любы момант можна было яго дастаць і ўжываць зноў. Вядома, ідэальных каменьчыкаў у краме не купіш, таму стаўленне да іх трапяткое, ашчаднае. Нават да самых дарагіх цацак так не ставяцца.

Завадатар трымае запаветны каменьчык у руцэ, кола на зямлі акрэслена, велізарная пяцёрка на маляваным «Сонцы» так і кідаецца ў вочы. Значыцца, можна пачынаць. А пачынаюць урачыста, амаль як на рыцарскіх турнірах. І тое, думаецца, там такой пыхі не было. Сыходзяцца ўсе, колькі ёсць, феадалы ў цэнтры, ставяць правую нагу пятком на «Сонца». Стаяць маўкліва, утварыўшы яшчэ адно кола, судакранаючыся наскамі сандалікаў, сцертых «дваровых» кедаў ды тэпцікаў. Сапуць. Завадатар павольна заносіць руку з каменьчыкам, абводзіць вачыма сабранне феадалаў і крычыць:

— Гоп!

Каменьчык падае. Усе з віскам адскокваюць ад «Сонца», а некаторыя падступныя душы спрабуюць ці пяткою, ці наском закінуць каменьчык на свой надзел, каб хадзіць першым. Бывае, праўда, што сыходзяцца двое ці трое такіх заўзятараў, пачынаюць душыцца і пхацца, ледзь не да сваркі. А каменьчык тым часам мірна ляжыць на патаптанай пяцёрцы, і завадатар, пацягнуўшы носам, выносіць суровы вердыкт:

— Перакідваем!

Значыцца, усю цырымонію трэба паўтарыць з самага пачатку.

Але, так ці іначай, гульня ўсё-такі пачынаецца. Каменьчык неабходна пхнуць нагою так, каб ён аказаўся на надзеле іншага феадала. Пхаць трэба з сілаю, але асцярожна: за вылет у «Космас» штрафуюць на сем слядоў, за пападанне на «Сонца», як падказвае лічба на ім, — на пяць. Штрафуюць хутка, проста, але бязлітасна: кожны з двух феадалаў-суседзяў адмервае некалькі сваіх слядоў на надзеле небаракі і, задаволены, далучае адваяваную тэрыторыю да сваёй зямлі. Слядочкі адмерваюцца не літаральна па слядочку: найбольшыя хваты любяць акуратненька прайсціся ля вугла і адхапаць яго цалкам, нягледзячы на пратэсты былога гаспадара. Або прымерыцца так, каб хаця б танюткім калідорам сваіх слядоў адсячы тэрыторыі суседа ад «Сонца».

— Усё ж чэсна. Пагляздзі: пяць слядоў жа.

Абдзелены феадал, у якога ажно дрыжаць вусны ад шкадобы да самога сябе, з гэтым, вядома, не згодны, але правілы ёсць правілы, і дэ юрэ яго апаненты маюць рацыю.

— Гоп!..

Пхнуў каменьчык слаба, і той застаўся на тваім жа надзеле? Рыхтуйся аддаць па тры слядкі суседзям. Хват, што адсек цябе ад «Сонца», прымудрыўся ў наступны свой ход заляпіць табе па нагах каменьчыкам? Тады, братка, яшчэ чатыры слядкі. Кожнаму.

Раз пацэляць па нагах, два. Не здолеў разгадаць намер саперніка і падскочыць у належны час? Ну, то й не скардзіся, калі застаешся на абкарнаным, нібыта аб'едзеным, кавалачку «Зямлі», быццам Рабінзон на востраве.

— А таму што няма чаго тут выдручвацца, ясна?

Калі гульня пераваліла за сярэдзіну, каменьчык пачынае лётаць так хутка, што адно паспявай адскокваць. Спрытныя павялічылі свае надзелы ўдвая ці ўтрая, нязграбы або за тры-чатыры хады страцілі ўвесь свой надзел і з румзаннем пабеглі скардзіцца мамкам ці бабулям або засталіся на дробным «астраўку» пасярод чужых земель. Калі б паглядзець зверху — дык не раўнуючы які-небудзь Ліхтэнштэйн. Уладар такога «астраўка» пасміхаецца з затоенай горыччу, быццам капітан карабля, што павольна ідзе на дно. Але, вядома, гуляць самотны капітан усё роўна працягвае: часам у буйных магнатаў на самым дне душы варушыцца сумленне, і яны скідваюць, так сказаць, з барскага плечука некалькі слядкоў. Зрэшты (заўважым асобна), не толькі ў сумленні ці чалавечнасці справа. А проста хітры хват-магнат спрабуе аддаліць момант супрацьстаяння адзін на адзін з асноўным сваім канкурэнтам.

Уладар незалежнага «Ліхтэнштэйна» настолькі напоўнены самай шчырай удзячнасцю, што пачынае агрэсіўна накідвацца на асноўнага саперніка свайго дабрадзея. Шансаў у маленькага астраўка, канечне, аніякіх, але супернік хвата пад такім напорам часта траціць неабходную для сапраўднага стратэга стрыманасць. А саперніку-дабрадзею толькі таго і трэба.

Застаюцца, у рэшце рэшт, двое магнатаў. З прыблізна аднолькавымі па велічыні надзеламі, прыблізна аднолькава спрытныя і хітрыя.

— Гоп!

Чуваць, як бабуся з першага паверха ўключыла любімы бразільскі серыял і як за язмінавымі кустамі голасна плача хтосьці з пакрыўджаных недарэкаў, што раней вылецеў з гульні. Астатнія беззямельныя, пакуль тое, натрэслі зялёных грушак, частуюцца, з камфортам седзячы на турніках, ды яшчэ, нахабныя, гучна кпяць з потных, стомленых, перапэцканых землеўладальнікаў.

Магнаты, угледзеўшы салодкія грушы, не вытрымліваюць, кідаюць сваё марнае захопніцтва і таропка выходзяць у адкрыты «Космас». Цуда-каменьчык ашчадна вяртаецца ў свой схоў да наступнай гульні.

Падступае млявы цёплы вечар, гукі і цені робяцца густымі. З вышыні турніка, адпаліраванага да бляску далонямі некалькіх пакаленняў, падзеленае кола «Зямлі» падаецца да смешнага нязначным і дробным. І нават дзіву даешся: ці варта было дзеля гэтага цягаць адзін аднаго за чубы і адсыпаць добрую меру кухталёў?

Буркочуць клапатлівыя шызыя галубы. Расчараваны ў язміне адплакаўся, паяснеў душой і разам з усімі радасна корпаецца ў пясочніцы. Шчаслівы і ціхі, дапамагае будаваць пясчаныя гарады з магістралямі і плошчамі, з тэлевышкамі і мастамі. Тут, у пясочніцы, няма хітрых феадалаў, што цаляюць каменьчыкамі па нагах. Тут спакойна.

«Зямное» кола, зацертае маленькімі нагамі, забытае, павольна патанае ў цёплым летнім паўзмроку. «Космас» разліваецца вакол, велізарны, цёмны, неабдымны, магутны, вырастае вышэй за турнік, за гаражы, за дрэвы, за дамы. Вышэй і болей за ўсё і ўсіх. І страшна, павіснуўшы на турніку, доўга глядзець у неба, у бясконцыя россыпы зор, бо здаецца, быццам сам падаеш туды, быццам падаеш уверх.

І трымціць высока-высока калматая блакітная зорка. Можа быць, таксама чыёсьці сонца са сваёй лічбачкай на баку.

— Заўтра выйдзеш? Будзем у «Зямлю» гуляць?

— А то!

# «Ты быў, як месяц, адзінокі…»

**Сяргей Палуян… У беларускім літаратурным працэсе пачатку XX стагоддзя няма постаці больш трагічнай. Лёс адмераў яму — ці, дакладней, ён сам сабе адмераў — дзевятнаццаць гадоў.**

## УСМІХАЎСЯ ЯК ДЗІЦЯ

Сяргей Епіфанавіч Палуян нарадзіўся 19 кастрычніка 1890 года ў Брагіне, у заможнай сялянскай сям'і. Яго бацькі змаглі ўзняцца да самай вяршыні, магчымай пры іх сацыяльным статусе: набылі частку маёнтка Крышычы (цяпер Калінкавіцкі раён Гомельскай вобласці) і сталі гаспадарамі на сваёй зямлі, памяняўшы сялянскае саслоўе на купецкае.

Пачаў вучобу Сяргей у шасцікласнай прагімназіі ў Мозыры, працягнуў — у гімназіі Мітавы (цяпер — Елгава, Латвія), але не скончыў: яго захапілі рэвалюцыйныя ідэі, маёўкі. Удзельнічаў у забастоўках, мітынгах, дэманстрацыях, вёў агітацыйную дзейнасць — усё гэта сталася, па-першае, пагрозай выключэння з навучальных устаноў, падругое — прычынай канфліктаў з бацькам. І ў 1908 годзе, пасля чарговага сямейнага скандалу, Сяргей назаўсёды пакінуў Крышычы і з'ехаў у Кіеў.

Пасяліўся спачатку ў роднага дзядзькі, пасля зняў пакойчык. Перабіваўся выпадковымі заробкамі і ганарарамі, рыхтаваўся да паступлення ва ўніверсітэт. Далучыўся да ўкраінскага рэвалюцыйнага руху.

Мікіта Шапавал, украінскі пісьменнік, блізкі сябар Сяргея Палуяна, так апісвае іх знаёмства: *«Яшчэ восенню 1908 года я сустрэў яго ўпершыню ў адной кнігарні. Нейкі высокі, русавалосы, дужы, чырванатвары юнак стаяў, перабіраў кніжкі, усміхаўся, як дзіця, і казаў: «Вось беларускі аддзел. Тут ёсць паэзія і ўсё…» Падышоў, і пазнаёміліся. Ён заўсёды насіў пры сабе нумары «Нашай Нівы», зборнічкі вершаў і расказваў пра адраджэнне роднага краю…»*.

Менавіта ў 1908 — 1909 гадах сталі з'яўляцца яго першыя публікацыі ва ўкраінскім, а затым і беларускім друку. Але нягледзячы на творчыя дасягненні і поспехі, Сяргей Палуян апынуўся ў палоне найглыбейшай дэпрэсіі, найвастрэйшай духоўнай адзіноты — праз некаторы час гэта стане невыносным цяжарам для яго чулай, узнёслай душы. Страшэнным расчараваннем для Сяргея, максімаліста і бескампраміснага змагара, стала неадпаведнасць дзеянняў мясцовых рэвалюцыянераў высокім ідэалам.

## ВЫГЛЯД — СУР'ЁЗНЫ, ТВАР — СІМПАТЫЧНЫ

Улетку 1909 года Сяргей Палуян пераехаў у Вільню і ўладкаваўся ў рэдакцыю «Нашай нівы». Яму падавалася, што там, дзе выспявае беларускі нацыянальны дух, дзе выдаецца «Наша Ніва», дзе жыве і творыць беларускі геній Янка Купала, усё мусіць быць па-іншаму.

У гэты перыяд адбылося завочнае знаёмства Сяргея Палуяна з Максімам Багдановічам, яраслаўскім гімназістам, чые вершы ён знайшоў у архіве газеты з адпаведнай пазнакай тагачаснага супрацоўніка рэдакцыі Ядвігіна Ш. («у архіў»). С. Палуян адразу зразумеў іх мастацкую вартасць і адзін пераканаў усю рэдакцыю ў тым, што вершы маладога паэта павінны пабачыць свет. Пасля паміж С. Палуянам і М. Багдановічам завяжацца змястоўная перапіска па праблемах нацыянальнага адраджэння, літаратурных пытаннях. С. Палуян стане для М. Багдановіча «настаўнікам» і прыхільнікам таленту. Можа быць, менавіта іх завочнае сяброўства сталася для будучага класіка беларускай літаратуры (а тады паэта-пачаткоўца) тым штуршком, які надаў энергіі яго творчасці.

> *Справай жыцця, выпеставанай марай Сяргея Палуяна, было нацыянальнае і духоўнае адраджэнне Айчыны, якая так шмат страціла з яго смерцю!*

Сяргей Палуян надрукаваў у «Нашай Ніве» крытычны артыкул «Беларуская літаратура ў 1909 годзе», публіцыстычныя артыкулы «З нашага жыцця», «Калі друкавалася першая беларуская Біблія?», «Першая беларуская вечарынка», «Віленскія газеты аб беларускім вечары», «Этнаграфічны вечар у Вільні», «Аб беларускім нацыянальным адраджэнні», «Нацыянальнае адраджэнне чувашоў», «Якуцкі нацыянальны рух», шэсць з дванаццаці «Лістоў з Украіны», актыўна супрацоўнічаў з украінскім друкам. Па сведчанні калег, супрацоўнікаў «Нашай нівы», С. Палуян пісаў «вершы з багатым зместам, апавяданні зусім на сучасны лад, п'есы для тэатра»: «Нам трэба зразу раўняцца на людзей. Тварыць так, каб у нас усё было» («Памяці Сяргея Палуяна», Наша ніва. 1910, № 18). А таксама склаў беларускую хрэстаматыю, «Зборнік цудоўных малюнкаў-сімвалаў» для дзяцей, вялікую працу «Беларуская справа і ўкраінскае грамадзянства». Апошнюю абяцалі выдаць пры «Нашай ніве» асобнай брашурай, але быццам незнарок згубілі, калі паміж маладым аўтарам і рэдактарамі пачалі ўзнікаць непаразуменні.

На гэты перыяд прыпадае знаёмства Сяргея Палуяна з беларускім пісьменнікам, пастаянным аўтарам выдання Цішкам Гартным. У сваіх успамінах Ц. Гартны так апісвае іх сустрэчу: *«Зайшоўшы адзін раз у рэдакцыю, я ўгледзеў там сярэдняга росту маладога чалавека, якога дагэтуль не бачыў. Худатвары, з доўгім носам, з глыбока ўпалымі вачмі, у пенсне, досыць сутулы… <…> Выгляд незнаёмага паказаўся мне сур'ёзным, твар сімпатычным. У задуменным поглядзе варушыліся глыбокія думкі»*.

## АПОШНІ ПРЫВЕТ БЕЛАРУСАМ

Але С. Палуяна зноў напаткала расчараванне, яшчэ страшнейшае. Расчараванне ў тым, у што ён непахісна верыў і для чаго жыў. Мікіта Шапавал згадваў яго маналог: *«Можна ўсю нашу гісторыю выславіць у двух словах: непаметнасць і рабства. Мы скрозь былі непаметнымі. Няма ніводнага яскравага пункта ў нашай мінуўшчыне. Мы заўсёды былі толькі рабы…»*.

Сяброў побач не знайшлося: з Вільні з'ехалі Цішка Гартны і Янка Купала, а Максім Багдановіч, каму Сяргей мог бы адкрыць душу, таксама быў далёка — у Яраслаўлі. З бацькамі стасункаў ніякіх. Пагоршылася здароўе: выявіліся сухоты.

Парваўшы з рэдакцыяй, на пачатку сакавіка С. Палуян з'ехаў у Кіеў. Жыў у маленькім цёмным пакойчыку, у галечы і адзіноце. Змрочныя думкі не адпускалі маладога літаратара. Як згадваў М. Шапавал, незадоўга перад смерцю Сяргей прынёс у рэдакцыю кіеўскага выдання сваю працу. Ён *«гаварыў нібы сам сабе: «Няма прынцыпаў нідзе. У дробязях жыцця звініць адна няпраўда. Людзі… гэта нешта такое жорсткае, чаго нідзе не ўбачыш. Усё сусветнае зло сканцэнтравалася ў чалавеку, знайшло сваю канкрэтную форму ў гэтай загадкавай злой істоце…»* (з некралога ў кіеўскай газеце «Рада», 1910, № 28).

Уночы 20 красавіка ў сваім цёмным пакойчыку, у доме на вуліцы Гоголеўскай, 37, упарадкаваўшы рэчы, — дакументы на відным месцы, надпісы, дзе чые кніжкі, ліст да свайго ўкраінскага сябра М. Шапавала — Сяргей Палуян скончыў жыццё самагубствам.

*«Вам я хацеў сказаць свае апошняя слова. Можа гэта і «пошло», але мне ўсё роўна пасля смерці. Жыццё не вартае таго, каб жыць. У марах жыццё — казка, а спраўдзі — гніццё раба і вечная незабяспечанасць. Але не думайце, што я дзеля незабяспечанасці ўміраю. Не. Жыць так, як жыву я, няма ніякай рацыі. <…> / Я так люблю жыццё, светласць і красу, ды не на маю долю выпала гэта. <…> / Я ніколі не меў больш блізкага чалавека, чым вы, але і вы былі далёка ад мяне. / Не знаў вы мяне. Век сам. Я нікога не меў блізкага. Перадайце шчыры прывет беларусам. Багата я думаў зрабіць, ды не зрабіў нічога. / Шкода паміраць так марна, але трэба. / Няхай… / І яшчэ адна драбніца: я ўміраю «пошло», павесіўшыся, бо не было змогі купіць рэвальвера…»* (з некралога, надрукаванага ў «Нашай ніве», 1910, № 18).



Малюнак Алесі Ісы.

## «ЁН БЫЎ УЖО НЕ НАШ...»

Гэтая смерць уразіла ўсіх. Праз гады беларускі гісторык Аляксандр Цвікевіч перапісваўся з Мікітам Шапавалам і запытаўся пра С. Палуяна: «Ці праўда, як кажуць некаторыя з нашых, што ён скончыў жыццё самагубствам быццам таму, што страціў надзею на адраджэнне Беларусі пасля таго, як пазнаёміўся з яе мінуўшчынай?» Відаць, у беларускім асяродку была прынятая гэтая версія Палуянавага сыходу.

У «Апошнім лісце С. Палуяну» яго блізкі сябра па нашаніўскім перыядзе Цішка Гартны згадваў: *«…Палуян доўга хварэў душэўнаю хваробаю, якая пад канец надта моцна скавала яго, так моцна, што яму, маладому, жыццярадаснаму, не міл казаўся гэты свет і людзі. Ён думаў аб загадцы смерці, аб «тым» свеце…»*.

Тагачасны рэдактар «Украінскай хаты» Павел Багацкі пісаў пра С. Палуяна: *«Да апошняга часу ніхто з нас не паверыў бы, што гэты чалавек доўгі час хадзіў з пячаццю смерці, што яго гарачае, заўсёды палкае і бадзёрае сэрца ўжо было авеяна жахам вечнага канца. Што тыя вочы, якія з такой зацікаўленасцю глядзелі далёка наперад, якія так пільна сачылі за кожным найменшым крокам развіцця любай для яго справы — адраджэння «забранага краю», — ужо свяціліся бляскам холаду, мёртвасці і згасання. Ён быў ужо не наш, а «з таго свету», але мы гэтага не заўважалі, бо бачылі, што праца жыцця, працы і барацьбы яго не пакідала да апошняй хвіліны»*.

Гэта быў яго выбар. Фатальны крок, пасля якога няма шляху назад. Адпаведная задума з'явілася ў Сяргея не за дзень да «сыходу». Прафесар Пётр Бузук, даследчык беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, у 1928 годзе пісаў: *«Сябраваў Палуян з маладым украінскім паэтам Чупрынкам, разам з якім быццам і даў абяцанку ліквідаваць рахункі з жыццём. Гэтую абяцанку Палуян і выканаў шчыра»* (Т. Кабржыцкая. Сцяжынкамі знічкі. — Мінск, 1990). Малады пісьменнік знаходзіўся ў надрыўным, надломленым душэўным стане. Абставіны склаліся для яго так, што духоўная адзінота, у якой ён апынуўся, наклалася на крайнюю беднасць і цяжкія ўмовы жыцця. Падтрымкі, апоры не знайшлося менавіта тады, калі ў ёй і была найвастрэйшая патрэба. Грыцьку Чупрынку пашанцавала больш: нечаканы дабразычлівец Аляксей Каваленка сабраў у перыёдыцы і выдаў за свой кошт усе творы ўкраінскага паэта, — гэта і ўратавала таго ад самагубства.

У перадсмяротным лісце С. Палуян пісаў, што яму «усё роўна пасля смерці». Але хіба было «усё роўна» напярэдадні фатальнага кроку? Калі б так, то навошта ён хадзіў у рэдакцыю і прынёсіў сваю працу? Нашто б раскладаў дакументы і кнігі з пазнакамі, дзе чые? Нашто, урэшце, пісаў развітальны ліст з просьбай перадаць «шчыры прывет беларусам»?

Справай жыцця, выпеставанай марай Сяргея Палуяна, было нацыянальнае і духоўнае адраджэнне Айчыны, якая так шмат страціла з яго смерцю! Калі пражыў бы хоць столькі, колькі Максім Багдановіч… Апошні вельмі высока ацаніў творчасць свайго завочнага сябра (менавіта яму і быў прысвечаны адзіны прыжыццёвы зборнік паэзіі «Вянок»): *«Тое нешматлікае, што напісаў Палуян, належыць да ліку лепшых набыткаў беларускага друкаванага слова. Але яшчэ больш каштоўны той дух, што ўдыхаў ён у навакольнае сваёй бадзёрай і жыццядзейснай асобай, якая валодала разуменнем задач беларускага руху і буйным размахам ініцыятывы»* (Багдановіч М. Новы перыяд у гісторыі беларускай літаратуры. Паводле публікацыі ў «Поўным зборы твораў у трох тамах». — Мінск, 2001. — Т. 2 ). Максім Багдановіч не паспеў сустрэцца з Сяргеем Палуянам, але надзвя тонка адчуў трагізм і адчай душы маладога пісьменніка.

Нельга сказаць пра яго лепш, чым гэта зрабіў М. Багдановіч:

**С. Палуяну**
***(трыялет)***

*Ты быў, як месяц, адзінокі:*
*Самотна жыў, самотна ўмёр.*
*Хоць свет і людны, і шырокі,—*
*Ты быў, як месяц, адзінокі.*
*Красу, і светласць, і прастор*
*Шукаў — і, ад усіх далёкі,*
*Ты быў, як месяц, адзінокі:*
*Самотна жыў, самотна ўмёр.*

**Тацццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

# Штрыхі да сямейнага партрэта

**Сёлета зусім невялікім накладам (менш як 100 асобнікаў) пабачыла свет брашура Якава Анапрэенкі «Здаецца мне…». У падзагалоўку да гэтай работы сам аўтар абяцае, што пад вокладкай сціплага выдання чытача чакае «эсэ пра Палуяна». Зрэшты, магу адразу папярэдзіць, што, раскрыўшы кніжачку, чытач ніякага эсэ не знойдзе, як і не знойдзе расповеду пра самога Сяргея Палуяна. Але не спяшайцеся з высновамі: брашурка ўсё ж каштоўная для даследчыкаў творчасці Сяргея Палуяна, бо змяшчае колькі цікавых і новых фактаў пра яго сваякоў. Але пра ўсё па парадку.**

Педагог і псіхолаг Якаў Анапрэенка, аўтар невялікага даследавання «Здаецца мне…», — ураджэнец вёскі Грушнае, што на Брагіншчыне. Таму цалкам лагічная яго цікавасць да лёсаў знакамітых землякоў. У сваіх краязнаўчых нататках (а менавіта так можна было б вызначыць жанр гэтай працы) ён піша: «Да нядаўняга часу самым вядомым брагінцом лічыўся былы балтыйскі матрос, удзельнік штурму Зімняга палаца Яфім Палуян. Але ж менавіта тут нарадзілася не менш значная асоба — рэвалюцыйна-дэмакратычны публіцыст, першы беларускі літаратурны крытык, ідэйны паплечнік Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Змітрака Жылуновіча — Палуян Сяргей Епіфанавіч». Таму і засяроджваецца Якаў Анапрэенка на вывучэнні радаводу Сяргея Палуяна.

Аўтар даследаваў царкоўныя кнігі і рэвізскія казкі канца XVIII — сярэдзіны XIX стагоддзяў, што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. На падставе гэтых дакументаў ён склаў радавод Сяргея Палуяна і вызначыў яго продкаў, што жылі на Брагіншчыне аж у канцы XVIII стагоддзя. Асабіва пільную ўвагу Якаў Анапрэенка звяртае на самых блізкіх сваякоў Сяргея — маці, бацьку, дзеда па бацькавай лініі і братоў ды сясцёр (у сям'і Палуянаў было дзевяць дзяцей).

Мы даведваемся, што бацька Сяргея, Епіфан Палуян, паходзіў з роду памешчыкавых сялян, а маці, Аляксандра Бахонка, — з сям'і багатага селяніна, які атрымаў волю яшчэ да адмены прыгоннага права. Па меркаванні Якава Анапрэенкі, менавіта матэрыяльнае становішча Аляксандры Дзмітрыеўны стала нагодай для шлюбу, бо, па ўспамінах сясцёр Сяргея Палуяна, іх бацька быў вельмі строгім, прынцыповым, імкнуўся занязць больш высокае становішча ў грамадстве і атрымаць як мага больш прыбытак. Існуе нават судовая справа, паводле якой Епіфан Палуян у 1897 годзе з парушэннем заканадаўства набыў




спрэчны маёнтак. Аўтар дадае: «ён жа яшчэ прысвоіў зямлю мясцовых сялян і забараняў ім нават на ёй пасвіць сваіх кароў». Так, у выніку шматгадовых судовых позваў ад сялян ён з ганьбай прайграў справу. Менавіта з гэтага факта Якаў Анапрэенка робіць выснову: «Я ўпэўнены ў тым, што такая антыгуманная пазіцыя бацькі да простых людзей яшчэ больш паўплывала на светапогляд яго сына, што хутка прывяло да кардынальнага разрыву адносін з бацькам і фарміраванне рэвалюцыйнай грамадзянскай пазіцыі…»

Даследчык звяртае ўвагу і на лёсы братоў ды сясцёр Сяргея Палуяна. Ён піша, што Зінаіда Палуян прымала актыўны ўдзел у абароне Айчыны ў гады Першай сусветнай вайны — была сястрой міласэрнасці Чырвонага Крыжа. А лёс самага малодшага брата Рыгора трагічна абарваўся ў далёкай Аргенціне. Ён атрымаў спецыяльнасць інжынера ў Загрэбскім універсітэце, у Аргенціну пераехаў у 1949 годзе, працаваў на рудніку слюды разам з братам жонкі. Трагічна загінуў разам з жонкай Зінаідай і яе братам 28 лютага 1952 года пры ўцечцы газу ў рудніку «Сельва», непадалёк ад горада Кардова.

Задаецца Якаў Анапрэенка і пытаннямі: ці памятаюць мясцовыя жыхары Сяргея Палуяна і яго сям'ю? ці ўшаноўваецца памяць пра выдатнага беларускага публіцыста на яго радзіме? Ён піша, што старажылы Брагіна адразу ж пакажуць месца на сучаснай вуліцы Кірава, дзе раней стаяў дом Палуянаў, і распавядуць, што ў пачатку XX стагоддзя гэтая вуліца ў народзе называлася Загароддзе. Раскажуць яны таксама і пра незнаёмцаў, якія часам спыняюцца, каб сфатаграфаваць гэтыя мясціны (магчыма, даследуюць радзіму Палуяна). Піша аўтар і пра тое, што аднойчы звярнуўся з прапановай перайменаваць брагінскую вуліцу Кірава ў гонар яе знакамітага ўраджэнца Сяргея Палуяна. Ён зазначае: «Галоўны архітэктар раёна Тамара Алесянкова майму паведамленню пра тое, што менавіта ў Брагіне нарадзіўся знакаміты зямляк, зусім не здзівілася і маю прапанову аб неабходнасці перамены назвы вуліцы падтрымала…»

Лёс выдатнага празаіка, публіцыста, тэатральнага і літаратурнага крытыка Сяргея Палуяна ўсё яшчэ поўніцца загадкамі. Мы дакладна не ведаем пра прычыны самагубства маладога літаратара, не можам наведваць яго магілу ў Кіеве (яна не захавалася), бясследна знікла мноства яго асабістых рэчаў і фотаздымкаў з сямейнага архіва. Але дзякуючы руплівасці даследчыкаў Вячаслава Рагойшы і Таццяны Кабржыцкай, запісаныя і выдадзеныя ўспаміны сясцёр Сяргея, выяўленыя асобныя факты яго біяграфіі. А з працы Якава Анапрэенкі «Здаецца мне…» мы даведваемся новыя звесткі пра гісторыю сям'і літаратара. Магчыма, праз некаторы час прапанову краязнаўцы аб перайменаванні брагінскай вуліцы Кірава ў гонар знакамітага ўраджэнца гэтых мясцін падтрымае кіраўніцтва горада, і мы зможам прайсціся па былому Загароддзю, а ў будучыні — па вуліцы Сяргея Палуяна.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Кнігагляд*

# Церні ды зоркі айчыннага слова

**Пачатак XX стагоддзя (1901 — 1920 гг.) — важны перыяд у станаўленні беларускай літаратуры. Менавіта на гэты час прыпаў яе найвялікшы росквіт.**

Грамадска-палітычныя абставіны спрыялі новаму этапу беларускага адраджэння. Важным здабыткам для культурнага жыцця краю стала з'яўленне першых беларускіх газет — «Нашай долі» і «Нашай нівы», вакол якіх згуртаваліся пачаткоўцы і ўжо вядомыя дзеячы. «Нашаніўскі перыяд» беларускай гісторыі працягваўся ўсяго дзесяцігоддзе (1906 — 1915), але акурат тады былі закладзены асновы прафесійнай мастацкай літаратуры і публіцыстыкі. Газета была не проста друкаваным органам, дзе пачатковец мог прадэманстраваць свае першыя пробы, — рэдакцыя «Нашай нівы» кіравала літаратурным працэсам, дбаючы як пра колькасць, так і пра якасць твораў. У той перыяд адбылося станаўленне таленту класікаў беларускай літаратуры — Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага ды іншых. Сёння пра тыя слынныя часы можна даведацца не толькі з мастацкіх твораў «нашаніўцаў», але і з мемуараў іх суайчыннікаў.

Кнігі ўспамінаў пра Купалу, Коласа, Багдановіча знайсці не так цяжка, бо іх даволі многа, але ёсць і малавядомыя выданні пра іншых славутых дзеячаў таго перыяду, якія таксама вартыя ўвагі. Пачаць можна, напрыклад, вось з гэтых…

**«На суд гісторыі. Успаміны, дыялогі»**

У кнізе сабраны ўспаміны, дыялогі, гутаркі з людзьмі, якіх лёс закінуў далёка ад радзімы, але сэрцам яны засталіся з роднай Бацькаўшчынай. Прадстаўнікі беларускай эміграцыі адкрываюць пачуцці, думкі і погляды, аддаюць іх на суд чытача, на суд гісторыі. Большасць матэрыялу, змешчаных у зборніку, раней нідзе не друкавалася. Аўтары, сярод якіх такія вядомыя імёны, як Вацлаў Ластоўскі, Аляксандар Уласаў, выказваюцца пра знакамітых людзей беларускай зямлі — Цётку, Алеся Гаруна, Якуба Коласа, Янку Купалу, Язэпа Лёсіка, Уладзіміра Жылку ды многіх іншых. Зборнік грунтоўна дапаўняе звесткі пра невядомыя факты з жыцця вядомых людзей.

**Юліяна Вітан-Дубейкаўская. «Мае ўспаміны»**

Аўтарка «Маіх успамінаў» Юліяна Вітан-Дубейкаўская з роду Мэнке (1886 — 1970) сярод дзеячаў беларускага руху ў Вільні першай паловы мінулага стагоддзя — постаць цікавая і неардынарная. Феномен яе жыццёвага лёсу ў тым, што яна далучылася да беларускага адраджэння, будучы паводле нацыянальнасці аўтэнтычнай немкай. Праўда, паходзіла яна з сям'і тых немцаў-віленчукоў, што здаўна сталі тутэйшымі жыхарамі, «прынялі ментальнасць і звычаі гэтага мілага краю». На фарміраванне светапогляду і беларускай грамадзянскай пазіцыі Юліяны Мэнке мелі ўплыў найперш асабістыя кантакты з беларускім насельніцтвам краю і дзеячамі адраджэння. Яшчэ ў гімназіі яна пазнаёмілася з Алаізай Пашкевіч — пазней паэтэсай Цёткай. У Пецярбургу Юліяна набыла спецыяльнасць мастацтвазнаўцы і ў 1915 г. у Вільні пасябравала з археолагам Іванам Луцкевічам. Іх найперш аб'ядноўвала агульнае зацікаўленне мастацтвам, пасля — супрацоўніцтва на ніве беларускай асветы. Юліяна прысвяціла сябе працы ў Беларускім Камітэце. Разам з Цёткай, Іванам Луцкевічам ды іншымі яна ўдзельнічала ў адкрыцці першых беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў, Віленскай Беларускай Гімназіі, дзе затым сама выкладала педагогіку і нямецкую мову. Яе адносіны з Іванам Луцкевічам з цеснага супрацоўніцтва перараслі ў блізкае сяброўства і шчырае каханне. На жаль, хвароба Луцкевіча стала перашкодай іх намеру стварыць сям'ю: ён згас ад сухот улетку 1919 г. Знаёмству з Іванам і прысвечаныя «Мае ўспаміны».

**Зоська Верас. «Я помню ўсё. Успаміны, лісты»**

Выданне прымеркаванае да 120-х угодкаў Зоські Верас (Людвікі Сівіцкай) — пісьменніцы, мемуарысткі, публіцысткі, лексікографа, перакладчыцы, асветніцы, грамадскай дзячкі. У аднатомніку без купюр друкуюцца яе ўспаміны і 386 лістоў (367 — упершыню). Зоська Верас — знакавая фігура ў беларускай гісторыі і літаратуры. Свой першы верш яна надрукавала ў 1907 годзе — усяго на два гады пазней за Янку Купалу, а аўтарам «Нашай нівы» стала ў 1911 г. На сціплыя заробкі ў 1928 годзе выдала паэтычны зборнік Міхася Машары «Малюнкі» — гэты ўчынак варты не меншай пашаны, чым фундатарства Магдаленай Радзівіл Багдановічава зборніка «Вянок».

**Язэп Драздовіч. «Праз церні да зорак»**

Упершыню ў гісторыі беларускага кнігавыдання пад адной вокладкай сабраны практычна ўсе самыя змястоўныя матэрыялы пра геніяльнага мастака, а таксама яго ўласныя творы: 640 старонак, нестандартны павялічаны фармат. У кнігу ўвайшлі ўспаміны і артыкулы пра беларускага пісьменніка, мастака, гісторыка і этнографа Язэпа Драздовіча, каго руплівы даследчык яго жыцця і творчасці Арсень Ліс назваў «вечным вандроўнікам». Своеасаблівы вянок гонару і пашаны творцу — вершы-прысвячэнні беларускіх паэтаў. Завяршаюць зборнік літаратурныя і мастацкія творы Язэпа Драздовіча, а таксама «Дзённік» і факсімільнае выданне яго кнігі «Нябесныя бегі». Той, хто прачытае гэты важкі том, атрымае поўнае ўяўленне пра шматгранны талент Язэпа Драздовіча — нашай нацыянальнай гордасці, якога называюць беларускім Леанардам да Вінчы. І сапраўды, ён быў скульптарам, этнографам, жывапісцам, графікам, пісьменнікам, мовазнаўцам, археолагам, педагогам, астраномам. Назва кнігі адпавядае жыццю Драздовіча: цярністы шлях, не пазбаўлены пакут і страт.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Шаўковы шлях да Сінявокай



Фота Кастуся Дробава.

Спадар Дзін Вэй раскрывае інтрыгу Дзён культуры.

## САГА ПРА АДВАЖНАГА ВАЯРА

Звон кінжалаў доблесных ваяроў, шоргат шаўковых сукенак прыгожых дам, мудрыя выслоўі сівых старцаў, што ажылі ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы...

Неверагодна эфектная касцюміраваная драма «Наш Цзын Кэ», якую пабачылі гледачы, — гэта гісторыя адважнага, здольнага на подзвіг маладога чалавека з далёкіх 220 — 30-х гадоў да нашай эры, — часу, калі кітайская зямля была падзелена на некалькі царстваў. У аснове сюжэта — рэальныя гістарычныя падзеі.

У перыяд дынастыі Чжоу ў Кітаі разгортваецца вострая барацьба паміж царствамі. Адзін кіраўнік плануе змову супраць другога. Спектакль, з аднаго боку, распавядае пра сяброўства, высакароднасць і каханне, а з другога — пра спакушэнні і здраду. Дыялог герояў неверагодна эмацыянальны і насычаны. Ледзь паспяваеш сачыць за развіццём падзей, але затое колькі філасофскіх думак! Спектакль нагадвае своеасаблівую прытчу з элементамі прыгодніцкага драйву: светлавыя эфекты ўзмацняюць адчуванне пастаяннага руху. Аўтар п'есы, што паслужыла асновай для пастаноўкі, — першы грамадзянін КНР, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Мо Янь.

Сімвалічна, што візіт Пекінскага тэатра народнага мастацтва з'яўляецца жэстам у адказ. У 2013 годзе на яго сцэне выступаў калектыў купалаўцаў.

## ДЗЕ ЗНАХОДЗІЦЦА ЦЫПАА?

Кітай са старажытных часоў вядомы як «царства парадная адзення». Працягам Дзён культуры стала выстаўка кітайскага касцюма — серыя шэдэўраў ткацтва і вышыўкі XIX — XXI стагоддзяў. Экспазіцыя «Цудоўны шоўк» адкрылася 13 кастрычніка ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

Грацыёзныя, завужаныя вячэрнія сукенкі, шырокія парадныя і вясельныя тунікі, жаночыя традыцыйныя касцюмы «цыпаа», упрыгажэнні для запясцяў і галаўныя ўборы са срэбра, кашалькі найтанчэйшага вырабу... Усё гэта багацце шаўковых твораў з лёгкасцю засланіла б прыгажосць самай яркай кветкавай паляны, азоранай сонцам. Нягледзячы на мноства элементаў кожнага са строяў, ні адзін не выглядае перагружаным — здаецца, іх ствараў ювелір! Разглядаючы кітайскія ўборы, вывучаеш гісторыю, бо кожны з іх належаў пэўнай дынастыі ці народнасці: Цын, Мяа, Дай, Чжуан.

Намеснік кіраўніка Музея жанчын і дзяцей Кітая Ян Юань паведаміла, што кітайская культура імкнецца да гармоніі, талерантнасці, таму ў адзенні жанчын можна заўважыць як незвычайныя спалучэнні, сучасныя элементы, так і чароўную вытанчанасць, класічныя формы. «Упрыгожванні не толькі робяць сукенкі трохмернымі, але і звяртаюць увагу на глыбіню культуры нашай краіны. Акрамя таго, з дапамогай вышывак і шаўковых тканін падкрэсліваецца абаяльнасць жанчын», — канстатавала Ян Юань.

Сакрэт вырабу шаўковай ніткі ў сучасным Кітаі захоўваецца ў сваім першапачатковым выглядзе да гэтага часу. Тэхналогія, між іншым, была прыдумана некалькі стагоддзяў таму і спачатку трымалася ў вялікай таямніцы. Культура кітайскага касцюма так дынамічна развіваецца, што, зайшоўшы ў краму дзе-небудзь у Шанхаі, трапляеш на «райскі востраў» — вочы разбягаюцца ад багацця расфарбовак і фасонаў.

## КВЕТКАВЫ РОССЫП

Любоў да традыцыйных касцюмаў ва ўсіх жыхароў Паднябеснай — на генетычным узроўні. Для іх гэта не проста прыгожая вопратка, а частка багатага мастацтва і вытанчанага густу прадстаўнікоў сваёй цывілізацыі.

Падчас адкрыцця экспазіцыі гледачы змаглі атрымаць асалоду яшчэ і ад моднага паказу. Каліграфія, адважная кампіляцыя азіяцкіх традыцый і заходніх навінак, зліццё стыляў розных нацыянальнасцей, багацце кветкавага арнаменту — усё гэта знайшло адлюстраванне ў творах дызайнера Кітай-Чэнь, пераемніцы стагадовай гандлёвай маркі «Цыюань».

Арганізатарамі выстаўкі выступілі Кітайская карпарацыя па знешніх культурных мерапрыемствах і Музей жанчын і дзяцей Кітая пры падтрымцы Міністэрства культуры КНР. Убачыць выстаўку можна будзе да 24 кастрычніка.

**Марыя ВОЙЦІК**



Філасофія і прыгоды: два ў адным.



Фота Марыі Войцік.

Кітайскія сукенкі — у трэндзе.

# Літаратурныя дарогі: Беларусь — Кітай

**Падчас Дзён культуры Кітая ў Беларусі ўвага была засяроджаная і на літаратуры Кітая. Пра гэта ішла гаворка і ў час перамоў беларускай і кітайскай дэлегацый у Міністэрстве культуры нашай краіны. Некалькі пытанняў пра беларуска-кітайскія літаратурныя сувязі мы адрасавалі старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаю Чаргінцу, які ўдзельнічаў у перамовах.**

**— Мікалай Іванавіч, як бы вы ахарактарызавалі сённяшні стан стасункаў паміж пісьменнікамі Беларусі і Кітая?**

— Мне падаецца, што тут відавочны istotны прагрэс. І ён назіраецца менавіта ў апошнія чатыры-пяць гадоў. Яшчэ ў 2011 годзе пабачыла свет аўтарская паэтычная анталогія перакладаў Міколы Мятліцкага «Лучнасць». Сярод іншых вялікіх паэтаў перакладчык пазнаёміў беларускага чытача з вершамі мастака слова VIII стагоддзя Ван Вэя.

**— Цяпер ужо ёсць і асобная беларуская кніга Ван Вэя…**

— Так. Але і ёй папярэднічала вялікая праца згаданага Мікалая Міхайлавіча. Менавіта ён падрыхтаваў і выдаў анталогію «Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая». Уражальны творчы праект! Падтрымку Мікалаю Мятліцкаму, «Звяздзе» ў рэалізацыі гэтай справы аказала Міністэрства інфармацыі краіны і Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У кнізе — прадмова пра кітайскую паэзію розных стагоддзяў, каментарыі да творчых і жыццёвых калізій розных пісьменнікаў. Выданне выйшла тыражом 2500 экзэмпляраў. Праца Міколы Мятліцкага адзначана Спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**— Кітайская паэзія — найперш класічная — заўжды прыцягвала беларускіх паэтаў. Можна згадаць пераклады яшчэ з 1920-х гадоў…**

— Таму і ўзнікла ў 2014 — 2015 гадах асобная кніжная серыя. Канечне ж, былі традыцыі. Адзін за другім выйшлі адразу чатыры перакладныя вершаваныя зборнікі: Ван Вэя, Лі Бо, Ду Фу, Ай Ціна. У іх і прадмовы ёсць, і біяграфічныя нататкі пра кітайскіх паэтаў. Да працы, падзвіжніцтва Міколы Мятліцкага далучыліся Навум Гальпяровіч, Таццяна Сівец, Рагнед Малахоўскі.

**— Відаць, серыя была арганізавана ў пярэдадзень традыцыйнай мінскай кніжнай выстаўкі ў лютым, калі яе ганаровым госцем быў Кітай?..**

— Несумненна. Але ж, наколькі я ведаю, Выдавецкі дом «Звязда» працягвае гэтую серыю. І, што цікава, цяпер новая кніга — зборнік вершаў сярэднявечнага паэта Лі Хэ — перакладзена з арыгінала. У Беларусі ўжо сфарміравалася асяроддзе цікаўных да кітайскай мовы і культуры маладых людзей. З арыгінала і падрадкоўнікі, і цікавыя пераклады для будучай кнігі Лі Хэ зрабіла старшы выкладчык кафедры ўсходніх моў факультэта міжнародных адносін БДУ Алена Раманоўская.

**— У прасторы беларуска-кітайскіх літаратурных адносін, відаць, пэўнае месца займае і літаратурна-мастацкая перыёдыка?**

— Напрыканцы 2014 года пабачыў свет нумар «Нёмана», дзе ў перакладзе беларускай літаратурнай моладзі (усе яны — добрыя знаўцы кітайскай) прыйшлі да чытача творы сучасных кітайскіх пісьменнікаў А І, Вэй Вэя, Чжу Вэніна, Лу Міня, Гэ Лян. Выпуску «кітайскага нумара» часопіса паспрыяў Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ.

Мне здаецца, што ў Беларусі пісьменнікі падрыхтавалі добрую глебу для шырокага знаёмства з кітайскай літаратурай. Застаецца чакаць узаемнай увагі з боку кітайскіх перакладчыкаў да нашага прыгожага пісьменства. Тым больш што ў лютым паміж нашымі краінамі была падпісана цэлая праграма аб узаемных перакладах. Таму спадзяванні на тое, што і беларускае мастацкае слова шырока загучыць у Кітаі, самыя што ні ёсць вялікія.

**Гутарыў Кастусь ЛАДУЦЬКА**

*Унікальны праект*

# Жанна Капуснікава: «Тут усё сапраўднае!»

**Кожнай мастацкай рабоце ў гэтым альбоме папярэднічае фотаздымак, які і стаў натхняльным для творцы. Кароткі тэкст-нататка, надрукаваны на газетнай паперы, распавядае гісторыю ці факт з жыцця сучаснай вёскі. Калі скласці ўсе тэкставыя замалёўкі з альбома, то атрымаецца цэлая газета, прысвечаная збору ўраджаю, жыццю камбайнераў, даярак. У суправаджальных надпісах-тлумачэннях да работ — цытаты з твораў Івана Мележа, Янкі Купалы… Усё гэта — факты пра незвычайны альбом работ мастачкі Жанны Капуснікавай «Дажынкі» (Мінск: Галіяфы, 2015), што быў прэзентаваны ў сталічным «Кніжным салоне».**

— Два гады таму, калі я працавала над праектам «Дажынкі», яшчэ на этапе падрыхтоўкі ўзнікала шмат пытанняў: дзе крыніца гэтых вобразаў, чаму ўсё паказана менавіта так? — распавяла падчас прэзентацыі Жанна Капуснікава. — Таму ўзнікла жаданне апярэдзіць дапытлівых гледачоў і зрабіць тлумачэнні — да ўсяго цыкла ў цэлым і да кожнай з работ у прыватнасці. Але атрымалася так, што да адкрыцця выстаўкі зрабіць надпісы на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай — не паспелі. І тады мой брат сказаў: «Давайце зробім каталог!»

У выніку ў альбоме-каталогу, які спачатку задумваўся як маштабная кніга ўсёй творчасці Жанны Капуснікавай, былі сабраныя фотаздымкі, тэксты, работы толькі да праекта «Дажынкі». У суправаджэнні артыкулаў вядомых мастацтвазнаўцаў, ды і расповеду самой аўтаркі пра сваю творчасць гэтыя элементы, як частачкі мазаікі, склаліся ў цэласную карціну. У гэтай кнізе, хоць яна выглядае як праект эксперыментальны, усё досыць лагічна. Штуршком да распрацоўкі праекта сталі фотаздымкі сына Жанны Капуснікавай Георгія, зробленыя летам у Лагойскім раёне. Там малады чалавек працаваў памочнікам камбайнера падчас жніва.

— Сын прынёс мне фота, каб падзяліцца думкамі і ўражаннямі. — Здымкі, што ў выніку ўвайшлі ў альбом, Георгій ніколі не лічыў мастацкімі творамі, бо рабіў іх для сябе толькі з цікавасці. Спачатку ў мяне былі складанасці з выбарам мовы. Як расказаць гэтыя гісторыі, каб усім было цікава? Таму я вырашыла скарыстацца моваю іранічнай, каб не ствараць



*Мастачка Жанна Капуснікава прадстаўляе альбом «Дажынкі».*

сцяну паміж сабой і гледачамі, а рабіць усё лёгка, весела і без пафасу.

З цягам часу элементы мастацкай выстаўкі склаліся ў цэласны праект альбома. Аўтары хацелі данесці да гледачоў рэпартажныя фотаздымкі, зробленыя Георгіем падчас працы, і работы Жанны Капуснікавай. Таму газетны фармат для расповеду нібыта напрошваўся сам. Адметна, што ў каталогу ўсе тэкставыя ўстаўкі (на беларускай, рускай і англійскай мовах) зробленыя на сапраўднай газетнай паперы, нават колер выбіраўся адмыслова.

Гісторыі з жыцця вёскі, расказаныя ў рэпартажах і інтэрпрэтаваныя ў работах мастачкі, розныя — смешныя, сур'ёзныя, сумныя. Так, рабоце «Даярка» папярэднічае тэкст пра тое, што цяпер кароў дояць з дапамогай спецыяльных тэхнічных прыстасаванняў, таму жывёлы нават сумуюць па чалавечым цяпле. А на стварэнне работы «Выратаванне» натхніла гісторыя, з якой можна даведацца, што падчас уборкі рапсу часта разбураюцца гнёзды качак, дзе толькі нарадзіліся птушаняты. Таму камбайнеры могуць стаць выратавальнікамі качанят. Ёсць у кнізе і такія развагі: у працэсе эвалюцыі ногі буслоў… пакарацеюць! Каб здабыць ежу, ім цяпер неабавязкова хадзіць па балотах, трэба толькі сачыць за камбайнамі на полі падчас уборкі ўраджаю.

Каб аформіць работы, такія розныя тэматычна, у адзін цыкл, выбраць агульную форму, Жанна Капуснікава звярнулася да беларускай традыцыі маляванак — маляваных дываноў. На такіх дыванах у даўнія часы мастакі адлюстроўвалі тое, чаго яны самі ніколі не бачылі, не мелі ў жыцці, таму і паказвалі рэальнасць больш яркай, разнастайнай. Але нельга сцвярджаць, што такія насычаныя колеры ў работах Жанны Капуснікавай штучныя і не характэрныя для беларускага традыцыйнага мастацтва. У прадмове да кнігі «Дажынкі» мастачка піша: «Мая мама нарадзілася і вырасла на Палессі. Там, дзе цяпер зона адчужэння. У 2011-м мы ездзілі туды з сынам і вельмі відавочна адчулі сувязь з той зямлёй… І яшчэ я зразумела, адкуль у мяне такая цяга да фарбаў! Там такое неба! Белы пясок… фіялетавыя цені… верасовыя заранкі колеру бэзу… А кветкі! Немагчыма прыдумаць назву колеру лугавога гваздзіка, які расце на пяску, — куды там да яго трапічнай фуксіі! І гэта буйства фарбаў людзі перанеслі ў свае хаты, у вышыўкі і ткацтва, роспісы «"куфраў ды маляванак"».

Ды не толькі колеры і вясковыя сюжэты яднаюць работы Жанны Капуснікавай з беларускай традыцыйнай культурай. Тут ёсць згадка пра абрад сватання жаніха на Палессі, падчас якога бацькі дзяўчыны, дэманструючы нязгоду на замужжа, маглі вынесці сватам гарбуз. У апісанні карціны з алюзіяй на гэты звычай прыводзіцца цытата з Мележа. А да работы Жанны Капуснікавай «У спакою» аўтары ў якасці тлумачэння падабралі цытату з верша Янкі Купалы «Над ракою ў спакою». Адметна, што вытрымкі з мастацкіх тэкстаў у тлумачэннях да работ на рускую і англійскую мову ў альбоме не перакладаюцца, таму апісанні, што падаюцца на розных мовах паралельна, часта адрозніваюцца. Так, да прыкладу, у расповедзе пра карціну «Купалле» аўтары не тлумачаць па-беларуску адметнасцей гэтага свята, зыходзячы з меркавання, што пра яго ў нашай краіне ўсе ведаюць.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

*Маладзічок*

# Вершы на памяць

**Не адно пакаленне дзяцей вырасла на хрэстаматыйным вершы вядомай паэтэсы Агніі Барто, які пачынаецца словамі: «Наша Таня громко плачет...» А няўжо ў беларускай літаратуры няма вершаў падобнага кшталту, якія б таксама лёгка ўспрымаліся і запаміналіся?**

Ды, безумоўна, ёсць. І гэта даказвае выдавецтва «Мастацкая літаратура» кніжнай серыяй "Нашым дзеткам". Добрым падарункам для дашкольнікаў сталі зборнікі вершаў Рыгора Барадуліна, Ніны Галіноўскай, Віктара Гардзея.

У гэтай жа серыі выйшла і кніга Анатоля Зэкава «Безбілетны Зай». Зрэшты, яна прыкметна вылучаецца нязвыклым афармленнем. Кніга — шэрая. Калі добра прыгледзецца, то ў шэрай мастакоўскай фарбе вокладкі нельга не заўважыць безліч розных адценняў, тонаў і паўтонаў. Гэткая «шэрасць» ніколькі не прыгнятае — наадварот, змушае дадумваць-дамалёўваць самастойна.

Мастачка Анастасія Сакалоўская, якая працавала над афармленнем кнігі «Безбілетны Зай» Анатоля Зэкава, не проста робіць ілюстрацыі да вершаў. Яна нібыта дапаўняе думкі паэта, надзяляючы герояў адметнымі якасцямі, і выводзіць іх на новую арбіту. І неўпрыкмет вершы, зусім не звязаныя паміж сабой па змесце, цесна пераплятаюцца і выстройваюцца ў адзіную сюжэтную лінію. За гэты праект маладая мастачка атрымала не адзін дыплом на міжнародных выстаўках кніжнай графікі.

Што да зместавага боку «Безбілетнага Зая», то і тут чытачы не будуць расчараваныя. Паэт сам нібыта пераўвасабляецца ў юнага героя і вядзе з імі гутарку.

З кнігі можна даведацца, якія падарункі купляе тата дачушцы Яне, як «снягурка Марынка лавіла сняжынкі», чаму «дзень сава на дубе спіць» і ад чаго ў яе «ходзіць кругам галава». А яшчэ паспрабуюць адказаць на пытанне хлопчыка Піліпа: «Калі плотка — гэта рыба, / То чаму не рыб — шчупак?» і адгадаць дзве загадкі




«Басаножкі на ножкі» і «На сенажаці», навучацца правільна і хутка вымаўляць «Громаву скорагаворку» і, вядома ж, знойдуць верш, які даў назву кнізе, каб вывучыць яго на памяць. Бо менавіта на гэта і скіраваныя кнігі серыі «Нашым дзеткам».

**Зінаіда БЯРНАЦКАЯ**

Аблічча

# Немаркотны Маладзік

Мінае 30 гадоў з той памятнай сустрэчы ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, калі адзначалася 95-годдзе з дня нараджэння паэта, публіцыста, крытыка Сяргея Палуяна — паплечніка Купалы і Багдановіча, сябра Ластоўскага, мужнага аўтара «Нашай Нівы». Адкрыў тую вечарыну, прысвечаную светлай легендзе нашай літаратуры, дырэктар музея Аляксей Кулакоўскі, а вядучы ўрачыстасцей Вячаслаў Рагойша даў слова Таццяне Кабржыцкай, якая ў грунтоўным дакладзе паведаміла пра вынікі сваіх і Вячаслава Рагойшы літаратуразнаўчых пошукаў. У той час зборнік «Лісты ў будучыню» яшчэ рыхтаваўся.

Радасна сустрэлі сястру Палуяна — Ангеліну Епіфанаўну з Рыгі. Цікава, што з Латвіяй Сяргей Палуян паяднаў свой лёс яшчэ ў 1904 — 1905 гадах, калі вучыўся ў Мітаўскай (сучасная Елгава) гімназіі. Выслухалі прысутныя і аповед пляменніцы Палуяна — Зінаіды Дзярабінай з Ленінграда. А пляменніца Івана Дамінікавіча Ядзвіга Раманоўская расказала пра віленскія стасункі свайго дзядзькі Янкі Купалы з Палуянам.

Сказалі яркае слова землякі Палуяна Іван Шамякін і Анатоль Грачанікаў. Алег Лойка распавёў, як дакрануўся да вобраза і творчасці выдатнага публіцыста ў сваім рамане-эсэ «Як агонь, як вада». А Рыгор Барадулін і аўтар гэтых радкоў прачыталі прысутным свае вершы, прысвечаныя памяці Сяргея Палуяна. Фотакадры з той незабыўнай падзеі пакінуў нам Анатоль Каляда.

Да 125-годдзя народзін нашага суайчынніка, чый лёс прытуліўся і да ўкраінскага водгулля, я дапрацаваў свой верш, распачаты яшчэ трыццаць гадоў таму.



Фота А. Каляды.

*95-годдзе з дня нараджэння С. Палуяна адзначалі ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Выступалі родзічы Сяргея Епіфанавіча — А. Палуян з Рыгі, З. Дзерабіна з Ленінграда, пісьменнікі А. Кулакоўскі, В. Рагойша, Т. Кабржыцкая, І. Шамякін, А. Грачанікаў, А. Лойка… Вершы, прысвечаныя юбіляру, прачыталі Р. Барадулін і С. Панізнік. 1985 г.*

## Адзінокі Маладзік

*У даль бязмежную адправіў*
*сваю дваццатую вясну.*
*Радка закончыў баразну*
*і развітаннем сваім раіў:*
*у адзіноце, поўнай рабства,*
*жыць не павінен чалавек.*
*Для таленту*
*самота — здзек.*
*Спыніў пакуты*
*лёсу ястраб.*
*І Багдановіч на магілу*
*усклаў ускрылены «Вянок…»*
*...Кружляе Памяці ганок —*
*набраць*
*Слаям і Глыбам*
*сілу.*

1985, 2015

**Сяргей ПАНІЗНІК**

Ініцыятыва

# Пачытаем разам?

Незвычайны праект «Чытаем па-беларуску з *Velcom*» распачаўся ў школах сталіцы.

Паводле задумкі арганізатараў, цягам трох месяцаў больш як у трох дзясятках школ Мінска пройдуць незвычайныя ўрокі беларускай мовы і літаратуры. У якасці настаўнікаў выступяць вядомыя дзіцячыя пісьменнікі. Вучні 2-3 класаў на такіх занятках не толькі пазнаёмяцца з асобамі творцаў, іх вершамі і апавяданнямі, але і паглыбяць сваё веданне беларускай мовы. Ініцыятыву кампаніі *Velcom* па правядзенні такой незвычайнай акцыі падтрымаў Камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама.



*Урок беларускай мовы і літаратуры вядзе акцёр і тэлевядучы Юры Жыгамонт.*

Кіраўнік аддзела карпаратыўных камунікацый кампаніі *Velcom* Вячаслаў Смірноў распавёў:

— Некалькі гадоў таму мы пачалі здымаць рэкламныя ролікі на беларускай мове і атрымалі шмат пазітыўных водгукаў з боку грамадскасці. Працягам справы па падтрымцы роднай мовы можна лічыць і праект «Чытаем па-беларуску з *Velcom*». Мы хочам, каб маленькія беларусы зацікавіліся нашай нацыянальнай культурай і мовай. На ўроках, што пройдуць у межах гэтай акцыі, вучні не будуць займацца па падручніках ці кнігах — да іх у госці завітаюць беларускія пісьменнікі. Урокі пройдуць у незвычайнай форме інтэрактыву, гульні. Так вучні самі зразумеюць, што беларуская літаратура — гэта цікава.

Першым «прыпынкам» акцыі «Чытаем па-беларуску з *Velcom*» стала сярэдняя школа № 136 г. Мінска з тэатральным ухілам. Дырэктар установы Алена Малашкевіч у прывітальным слове зазначыла:

— Два дзесяцігоддзі ў нашай школе існуе тэатральны напрамак, і толькі летась мы паставілі першы спектакль па-беларуску паводле паэмы Янкі Купалы «Адвечная песня». Вельмі добра атрымалася. Удзел у акцыі «Чытаем па-беларуску» — новы крок у набліжэнні вучняў да беларускай мовы.

Настаўнікам-вядучым першага ўрока акцыі стаў акцёр і тэлевядучы Юры Жыгамонт, тэмай літаратурных заняткаў была абраная творчасць пісьменніка, галоўнага рэдактара часопіса «Вясёлка» Уладзіміра Ліпскага, а веды беларускай мовы вучні пашырылі новымі словамі і прыказкамі па тэме «Свята». На незвычайным уроку школьнікі пазнаёміліся з некаторымі творамі Уладзіміра Сцяпанавіча, даведаліся, як ласкава называюць Свіцязянскую русалку, паспрабавалі сябе ў якасці паэтаў і перакладчыкаў з рускай на беларускую.

Думаецца, такія незвычайныя ўрокі роднай мовы і літаратуры дзецям прыйдуцца даспадобы. Сталічных школьнікаў яшчэ чакае мноства незвычайных сустрэч з айчыннымі аўтарамі. Так, наступныя ўрокі ў межах акцыі «Чытаем па-беларуску з *Velcom*» правядуць пісьменніца-казачніца Алена Масла, паэтка і публіцыст Таццяна Сівец, пісьменнік Уладзімір Ліпскі.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Пад мікраскопам — перакладчык

Паназіраць за працэсам перастварэння на беларускую мову некалькіх вершаў нямецкай паэткі Норы Гомрынгер у рэжыме анлайн можна было падчас сустрэчы фармату «Шкляны перакладчык», што прайшла ў Інстытуце імя Гётэ ў Мінску. Эксперымент-назіранне за працай перакладчыка праводзіўся ў сталіцы ўжо другі раз. Сёлета ў якасці «шклянога» героя выступіла паэтка, перакладчыца, кандыдат філалагічных навук Вольга Гапеева, а мадэрыравала сустрэчу Ірына Герасімовіч.

Адна з асноўных мэт міжнароднага праекта «Шкляны перакладчык» заключаецца ў тым, каб звярнуць шырокую ўвагу публікі на прафесію перакладчыка — чалавека, які часта застаецца ў ценю аўтара, але без працы якога чытачу, што не валодае мовай пісьменніка, нельга пазнаёміцца з яго творамі. На сустрэчах, якія праходзяць у такім фармаце, можна не толькі паназіраць за працай перакладчыка, але і задаць яму пытанні і нават наладзіць актыўнае абмеркаванне спрэчных момантаў тэксту.

Ва ўступным слове Ірына Герасімовіч зазначыла:

— Перакладчыка звычайна не бачна, яго заўважаюць толькі калі ён робіць памылкі. Вельмі важная тэндэнцыя назіраецца апошнім часам: пашыраецца прысутнасць перакладчыкаў у публічнай прасторы. Гэта немагчыма без людзей, якія цікавяцца перакладам, па сутнасці, не самай захапляльнай дзейнасцю. Усе цікавыя працэсы, што адбываюцца пры перастварэнні мастацкіх твораў на розныя мовы, нябачныя, «падводныя», і вельмі прыемна, калі ёсць людзі, якія цікавяцца менавіта гэтымі «падводнымі плынямі».

І сапраўды, імпрэзу «Шкляны перакладчык» нельга назваць сумнай і нуднай. Справа не толькі ў асобах аўтара, перакладчыка і мадэратара, але і ў актыўнасці, зацікаўленасці гледачоў. Зрэшты, сутнасць імпрэзы заключалася і ў працы з тэкстамі, і ў абмене думкамі адносна асаблівасцей дзейнасці перакладчыка. Так, Вольга Гапеева заўважыла:

— Узнікае пытанне: калі мы бачым сябе ў люстэрку, ці з'яўляецца гэтая выява дакладным адлюстраваннем нашай знешнасці? Такую ж паралель можна правесці з тэкстамі арыгінала і перакладу: калі тэкст глядзіцца ў пераклад, ці бачыць ён там свой дакладны адбітак? Але думаецца, што гэты адбітак, як і выява чалавека ў люстэрку, дапамагае і тэксту зразумець многае пра сябе. Я заўсёды цытую вядомую думку пра тое, што самы важны чытач — перакладчык, бо толькі ў працэсе перакладу сапраўды бачныя ўсе хібы арыгінала і яго незвычайныя моманты, якія просты чытач мог і не заўважыць, бо знаёміўся з творам зусім у іншым тэмпе.

Паразважала Вольга і пра тое, як уплывае яе ўласная паэтычная творчасць на працэс перакладу чужых тэкстаў:

— Часам адчуваю, што ў тэксце перакладу мне хочацца пераставіць словы, бо і ў сваіх вершах я часта выкарыстоўваю прыметнікі ў постпазіцыі да назоўніка. Гэта робіцца для захавання пэўнага рытму, але падчас здараецца і выпадкова. Думаецца, гэта мой уласны голас, што прабіваецца ў перакладзе, а не ўплыў індывідуальнага стылю, якога варта пазбягаць. Бо калі пачынаю пераклад верша, то гэта значыць, што твор мне падабаецца, а з яго аўтарам маю нейкія агульныя рысы — ён сімпатычны мне як творца. Пераклад — добры памочнік для паэта, адпачынак ад уласнай творчасці, магчымасць пабачыць, што думаюць і адчуваюць калегі з іншых краін. Гэта і загадка, над якой можна падумаць, папрацаваць. З аднаго боку, складаныя моманты ў перакладзе я не люблю, але яны надзвычай прывабныя, бо прымушаюць думаць.

Падчас вечарыны «Шкляны перакладчык» Вольга Гапеева разам з гледачамі працавалі над перастварэннямі тэкстаў Норы Гомрынгер на беларускую мову. Цяпер рыхтуецца цэлая кніга перакладаў аўтаркі, таму сустрэча стала магчымасцю не толькі «адшліфаваць», давесці да ладу пэўныя тэксты, але і паглядзець, як верш Норы ўспрымаюцца беларускімі чытачамі. Мадэратар Ірына Герасімовіч заўважыла:

— Сёння мы назіраем неверагодна мужны ўчынак перакладчыка, бо паказаць чытачам яшчэ не зусім гатовы тэкст — амаль подзвіг. Гэта прыкмета вялікага даверу да іншага чалавека.

Натуральна, большасць пытанняў, што абмяркоўваліся, датычыла практычнага аспекту майстэрства перакладчыка. Але прагучаў і адказ на пытанне, як перакладчык знаходзіць аўтара. Вольга Гапеева распавяла:

— З Норай я пазнаёмілася ў 2009 годзе, калі разам былі ў Берліне на стыпендыі ў Берлінскім літаратурным калоквіуме. Спачатку прыглядаліся адна да адной, а потым пазнаёміліся і пасябравалі. Пасля першай жа размовы я зразумела, што гэта абсалютна «мой» чалавек, з ёй было вельмі лёгка і проста кантактаваць. Але знаёмства з тэкстамі Норы адбылося зусім іншым чынам. Першы раз яе вершы пабачыла ў друкаваным выглядзе і пачала чытаць адзін з іх сама сабе з лірычнай, рамантычнай інтанацыяй. Калі ж пачула той жа твор у выкананні Норы з абсалютна іншай інтанацыяй, то маё ўражанне ад яе тэксту стала амаль супрацьлеглым у параўнанні з папярэднім.

Перакладчыцы падкрэслілі: часта пры знаёмстве з тэкстам вельмі важна пачуць, як яго чытае сам аўтар. Аднак для праекта «Шкляны перакладчык» і для зборніка перакладаў вершаў Норы Гомрынгер адмыслова выбіраліся тэксты, на ўспрыманне якіх не ўплываюць ні аўтарская інтанацыя, ні голас. Спадзяюся, гэтая кніга хутка пабачыць свет, а некаторыя ўдзельнікі вечарыны змогуць пабачыць у тэкстах менавіта тыя творчыя хады, што прапаноўваліся імі падчас сустрэчы.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Каву з дзьмухаўцоў, калі ласка!

**Самая багатая скарбніца карысных рэчываў — прырода. Далёка і хадзіць не трэба, каб быць здаровым круглы год. Гляньце вакол: сярод лясных заraснікаў, садовых дрэў, на дачным надзеле стаіліся клапатлівыя лекары нашага цела, розуму і душы. Гаворка пойдзе пра народную медыцыну. Карысная ў кожным доме кніга «Аптэчка прыроды» выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда». Аўтары — дактары з вялікім досведам Яўген Шмярко і Наталля Тышкевіч.**




Травалячэнне — практыка, правераная тысячагоддзямі, таму не верце тым, хто ставіцца да яе з пагардай. Спіну ломіць, насмарк пачаўся ці нагадаў пра сябе гастрыт? Чаму б не паспрабаваць, напрыклад, абсалютна бясшкодную, ды яшчэ і дзейсную пры правільным прыгатаванні гарбату з духмяных раслін! Тым больш што ў Беларусі іх шмат.

Рэцэпты карысных збораў, правераных у рэальнай медыцынскай практыцы, — тое, чаго ў кнізе хопіць на ўсю сям'ю. Перад вамі — кішэнная энцыклапедыя здароўя, дзе і прафілактыка розных захворванняў, і комплекснае лячэнне.

Аўтары лаканічна распавядаюць пра прычыны ўзнікнення хвароб, прапаноўваючы рэцэпты выздараўлення ў выглядзе травяной гарбаты, настояў, фітакампрэсаў, бальзамаў, сіропаў і канцэнтраваных збораў, якія дастаткова прымаць па некалькі лыжак у дзень. Інгрэдыенты няпростыя. Сярод іх — як знаёмая парэчка з глогам і трыпутнікам, так і загадкавыя для гарадскога жыхара сушаніца з дуброўкай. Тым не менш, калі прытрымлівацца ўсіх парад, то вынік не прымусіць сябе чакаць. Так, напрыклад, збор для ўмацавання арганізма (што асабліва актуальна восенню) гатуецца з дванаццаці траў.

Дарэчы, кніга будзе карысная для шырокай аўдыторыі, а не толькі для медыкаў, аматараў гербарыя ці бабуль. Травалячэнне сёння — адна з самых актуальных практык!

Пабудавана выданне па прынцыпе «захворванне — сакрэт яго лячэння». Тут не проста сухое выкладанне паслядоўнасці падрыхтоўкі той ці іншай сумесі з траў, але і парады адносна харчавання і ладу жыцця пры асобным недамаганні. Можна даведацца, напрыклад, як прыгатаваць супервітамінны далікатэс на ўсе выпадкі жыцця з падбелу, бурачкоў, капусты і трыпутніка, правесці хатнюю араматэрапію пры насмарку, выканаць дыхальную гімнастыку, пачаць весці правільны распарадак дня.

У выданні шмат рэкамендацый па ўмацаванні імунітэту, комплексным аздараўленні і прафілактыцы ангіны, язвы, хранічнай стомленасці, гіпертаніі, астме, атэрасклерозе, рэўматызме… Афіцыйна тое, пра што распавядаюць чытачам Яўген Шмярко і Наталля Тышкевіч, называецца фіта-дыета-валеалогіяй, альбо проста фітатэрапіяй.

*Прапануецца і цікавы экскурс у гісторыю — ад узнікнення першай фітааптэкі ў сярэдзіне XVI стагоддзя да савецкага часу, калі прыхільнікаў народнага лячэння нават абвінавачвалі ў знахарстве.*

Кніга карысная і для агульнай адукацыі: раслінны свет адкрываецца чытачам з невядомых бакоў. Возьмем хаця б крапіву двудомную. Аказваецца, ёй можна не толькі суседскіх хуліганаў з агарода праганяць. Вітаміну «С» тут больш, чым у лімонах. Акрамя таго, крапіва спыняе кроў, выводзіць таксіны, лечыць астму ды шмат яшчэ ў чым дапамагае. А вось горыч усім знаёмага дзьмухаўца таксама, як ні дзіўна, гаючая. Кветка, з якой рамантычныя дзяўчаты плятуць вянкі ўлетку, не толькі радуе вока, але і паляпшае памяць, нармалізуе работу печані, нервовай сістэмы. А ведаеце, якая смачная з дзьмухаўцоў кава?

Аўтары запэўніваюць (прычым вельмі пераканаўча), што з дапамогай традыцыйнай медыцыны можна лячыць не толькі звычайную прастуду, але і больш сур'ёзныя захворванні — сардэчна-сасудзістыя, страўнікава-кішэчныя, нервовыя, скурныя.

У выданні можна знайсці мноства цікавых фактаў пра злакавыя культуры, прадукты, якія мы ўжываем кожны дзень, кшталту малака ці хлеба. Распавядаецца, як пазбавіцца згубнай цягі да алкаголю і цыгарэт. Прапануецца і цікавы экскурс у гісторыю — ад узнікнення першай фітааптэкі ў сярэдзіне XVI стагоддзя да савецкага часу, калі прыхільнікаў народнага лячэння нават абвінавачвалі ў знахарстве. Аўтары сцвярджаюць, што сёння цікавасць да традыцый узрастае. Праводзяцца ўжо і міжнародныя навуковыя канферэнцыі па фітатэрапіі. А колькі ў гэтай галіне яшчэ не вывучана!

Яўген Шмярко — вучоны, які шмат гадоў працаваў у небяспечных зонах, быў галоўным урачом аднаго з дзіцячых санаторыяў пад Мінскам, куды прывозілі маленькіх пацыентаў з усяго СССР. Па яго меркаванні, нашы хваробы — вынік дэфіцыту мікраэлементаў, на якія вельмі багатыя расліны. Дарэчы, падрабязна пра «зялёных дактароў» — у асобнай частцы кнігі. Сціsла, ёміста апісваюць аўтары асноўныя групы біялагічна актыўных рэчываў, якія змяшчаюцца ў лекавых раслінах. Вітаміны, эфірны алей, гліказіды, алкалоіды, кумарыны, дубільныя рэчывы… Не думайце, што гэты раздзел карысны толькі медыкам — усё падаецца вельмі даступна. Прыкладаецца нават таблічка складу раслін, супрацьпаказанні да травяных сумесяў, тэрміны захоўвання народных лекаў.

Каб прыгатаваць любы фітараствор, апісаны ў кнізе, не трэба быць спецыялістам. Дастаткова толькі жадання!

**Марыя ВОЙЦІК**

БЕЛКНІГА

296 70 72,
292 70 72

- Самая буйная сетка кніжных крам у краіне
- Велізарны выбар мастацкай і дзелавой літаратуры, кніг для дзяцей, навучальных і метадычных дапаможнікаў, CD і кніг на замежных мовах, папярова-белавой прадукцыі і канцылярскіх тавараў
- Наяўны і безнаяўны разлік, паслуга «Кніга – поштай», распродажы, акцыі, прэзентацыі, зніжкі і шмат чаго іншага

220089, Рэспубліка Беларусь,
вул. Чыгуначная, 27А
Тэл./ф.: 222 89 45
Тэл. д/даведак: 296 70 72, 292 70 72
e-mail: office@belkniga.by
www.belkniga.by



**Адрасы некаторых крам:**

«Дом книги «Знание», г. Мінск, вул. К. Маркса, 36
«Далеч», г. Мінск, пр-т Партызанскі, 147
«Презентация», г. Мінск, пр-т Пераможцаў, 51, к.1
«Крыніца», г. Салігорск, вул. Леніна, 49
«Асвета», г. Брэст, пр-т Машэрава, 57
«Глобус», г. Віцебск, вул. Замкавая, 21/30
«Восход», г. Наваполацк, вул. Кірава, 4
«Книжный мир», г. Гомель, пр-т Леніна, 45

# Шматкроп'ем па дажджы

**Кніга вершаў Святланы Варонік «Маміна дрэва», што выйшла ў Выдавецкім доме «Звязда», нагадвае папяровую паштоўку. Дакрануцца, адчуць водар, пазнаць любімы почырк... Кароткія, цёплыя споведзі-сказы, імгненныя думкі, урыўкі фраз — кніга стварае адчуванне ўтульнай, як кажуць, сваёй, атмасферы.**




«Хай шчасна будзе ўсім, / хто гадаваў мой дух…» — піша аўтар. Часцей за ўсё яна звяртаецца да матулі, якой ужо няма побач: сумуе, просіць парады, успамінае дзяцінства, пяшчоту і дабрыню самага блізкага чалавека… Часам ад яе слоў становіцца тужліва і маркотна, а потым абуджаецца надзея і цеплыня ў душы. Святлана Варонік нібы жангліруе эмоцыямі, уводзячы чытача то ў адзін, то ў другі стан. Рэчы, пра якія гаворыць аўтар, даволі знаёмыя: напрыклад, жаданне пераехаць, забыцца, адштурхнуць мінулае, якое спасцігае ў хвіліны адзіноты і расчаравання. «Горад пустых завулкаў, / горад маўклівага болю / я пакідаю сёння…» — здаецца, пра штосьці такое спявала Земфіра.

*Лірычная гераіня, дарэчы, вельмі схільная да меланхоліі, таму вершы прыйдуцца даспадобы асобам рамантычным, з тонкім ладам душы. Святлана Варонік параўноўвае сябе з восенню, што стаіць басанож, ахутаная туманамі і жоўтым лісцем.*

Шмат у кнізе і трапных сімвалічных вобразаў кшталту «У мяне ёсць дрэвы…/ Толькі няма веры, / што ў мяне ёсць Сад» ці «Я — ліхтарык у ночы. / Я ведаю вочы/ Вашы. / Поўныя слёз».

Лірычная гераіня, дарэчы, вельмі схільная да меланхоліі, таму вершы прыйдуцца даспадобы асобам рамантычным, з тонкім ладам душы. Святлана Варонік параўноўвае сябе з восенню, што стаіць басанож, ахутаная туманамі і жоўтым лісцем, разгадвае галаваломкі скрыжаваных рук і слухае плач ветру.

«Крані мяне, Мама, ветрам. / Крані пазалотай лісця. / Маўчыш. / І кранаеш слязою…». Матуля сніцца ў жыцце з васількамі, бачыцца ў роднай хаце… Нездарма фраза «Цвіце мая доля. / У садзе — бела. / Успамінае мяне маленькаю / Маміна дрэва» стала эпіграфам да выдання.

Аўтар цікава праектуе эмоцыі на з'явы прыроды. Бурбалкі ў лужах у Святланы Варонік смяюцца, хмары паўзуць, кроплі бегаюць навыперадкі, незабудкі развітальна п'юць ваду з рэчкі, зоркі саромеюцца, промні блытаюцца ў верхавінах дрэў… Такія вершы месцамі нагадваюць заклінанні ці, наадварот, малітвы, якія трэба вымаўляць абавязкова ўначы і шэптам — а потым, разам з гераіняй твораў, — у «неразбуджаны ранак»... «Графіка маёй радасці: за акном зелянее дрэва», — праз кнігу праходзіць даволі глыбокая філасофія, якая патрабуе ўдумлівага прачытання.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Тое, што аб'ядноўвае

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы прайшоў міжнародны «круглы стол» «Аб важнасці і праблемах мемарыялізацыі памяці выбітных дзеячаў беларускай культуры за мяжой», падчас якога на прыкладзе праекта «Славацкімі шляхамі Янкі Купалы» былі абмеркаваныя праблемы і перспектывы ўшанавання памяці вядомых беларусаў у іншых краінах.**



Фота Кастуся Дробава.

*Падчас пасяджэння «круглага стала».*

Ці дастаткова ведаюць у свеце славутых дзеячаў беларускай культуры? Якія адметныя праекты адбыліся апошнім часам у мэтах папулярызацыі вядомых айчынных творцаў за мяжой? Ці ёсць перспектывы вырашэння праблемы мемарыялізацыі іх памяці? Гэтыя пытанні спрабавалі вырашыць удзельнікі «круглага стала». У дыскусіі бралі ўдзел прадстаўнікі дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый, СМІ.

**Віталь Корнеў, саветнік Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь:**

— Праблема ўшанавання нашых знакамітых землякоў існуе ўжо даўно, але амаль ніяк не вырашаецца. Намаганні выправіць становішча робяцца несістэмна. Калі мы не будзем мэтанакіравана працаваць у гэтым напрамку, запрашаць да сябе, ездзіць у іншыя краіны, — нічога не зменіцца. Мы павінны самі асэнсаваць і ўсведамляць унёсак нашых выбітных дзеячаў у сусветную культур.

**Людміла Лебедзь, галоўны спецыяліст Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь:**

— Пачаць трэба з рэформы школы. У кніжных крамах іншым разам не знайсці кнігі беларускіх аўтараў. Усё, што праводзіцца, мае кропкавы характар. Няма сістэмы мемарыялізацыі і захавання славутых імёнаў. Гэта і наша бяда, і наша віна.

**Мар'ян Сэрватка, пасол Славакіі ў Беларусі з 2008 па 2013 год:**

— Я прапаноўваю актывізаваць супрацоўніцтва. Нашымі народамі зроблена шмат маленькіх і вялікіх крокаў насустрач, у тым ліку і ў культурнай прасторы. І гэта не спыніць. Творчыя саюзы павінны мець магчымасць запрашаць да сябе сваіх калег з замежжа. Пакуль гэта толькі некалькі індывідуальных ініцыятыў. Але пачатак ёсць, таму галоўнае — не спыняцца на дасягнутым.

**Анатоль Бутэвіч, намеснік старшыні Беларускага фонду культуры, пісьменнік:**

— Канечне, нашых намаганняў у папулярызацыі беларускай культуры за мяжой недастаткова. Калі ў Мінску ў гістарычным музеі Пасольства Украіны вырашыла паказаць, як узгадваюць у свеце іх класіка Шаўчэнку, колькі там было фотаздымкаў з памятнымі мясцінамі — такіх месцаў у свеце больш за чатыры тысячы! Ніводная краіна не будзе праяўляць ініцыятыву: «дайце нам ушанаваць памяць вашага пісьменніка, кампазітара». Менавіта мы павінны пра гэта руліцца! Але мне здаецца, што, пакуль самі не пачнём дастаткова шанаваць сваю культурную спадчыну, цяжка будзе актывізаваць работу з замежжам.

**Алесь Суша, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі:**

— Мемарыялізацыя фіксуе беларускую прысутнасць у свеце. Мы павінны працаваць са спадчынай, якая, на жаль, часта застаецца за мяжой. З 440 кніг Скарыны ў Беларусі маем толькі дзесяць! Тое ж самае з жывапісам Шагала, Малевіча, Кандзінскага. Усё гэта вяртаецца фрагментарна. Тым не менш справа вывучэння і вяртання — першачарговая. Самі ўсё не здолеем — дапамога замежжа патрэбная.

**Адам Мальдзіс, прафесар, доктар філалагічных навук, літаратуразнаўца, пісьменнік, публіцыст:**

— Нас мала ведаюць за мяжой — і вінаватыя мы самі. Ёсць цікавая ідэя: у 20—30-я гады ў Мінску працаваў фінскі і беларускі мастак Ахола Вало, але музей яго ёсць толькі ў Фінляндыі. Частку карцін абяцалі перадаць да нас, у музей Купалы. Гэта выдатная нагода для яшчэ аднаго цікавага праекта мемарыялізацыі памяці нашых славутых дзеячаў.

**Мікола Трус, загадчык кафедры беларускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта:**

— Я буду абапірацца на свой уласны досвед. Ведаюць ці не ведаюць? Такое пытанне некарэктнае. Трэба пытаць: «Ці хацелі б вы ведаць?» Час змяніўся, і яго асаблівасці трэба ўлічваць. Добра, што актывізуецца міжкультурны дыялог, што пісьменнікі, журналісты знаёмяцца, ствараюць сумесныя праекты. Але ў сённяшнім актыўным міжнародным дыялогу ўвага да класікі «прасядае» па розных прычынах. Патрэбныя мэтанакіраваныя праекты з дзяржаўнай падтрымкай. Абапірацца ж ёсць на каго. У той жа Славакіі чвэрць стагоддзя рыхтуюцца беларусісты. А мы іх не задзейнічваем. Хаця павінны заахвочваць.

Усе ўдзельнікі «круглага стала» маюць спадзеў, што дадзенае мерапрыемства будзе не толькі спрыяць прыцягненню ўвагі да пытання ўшанавання нашых класікаў за мяжой, але і яшчэ раз падкрэсліць вялікае значэнне захавання нацыянальнай культурнай спадчыны, а таксама развіцця міжкультурнага дыялогу Беларусі з краінамі свету.

Паводле слоў дырэктара Купалаўскага музея Алены Ляшкевіч, праект — рэканструкцыя гістарычнай вандроўкі класіка 1935 года, якую супрацоўнікі музея паўтарылі разам з беларускімі паэтамі, пісьменнікамі і журналістамі ў чэрвені гэтага года. Мэтай падарожжа стала знаёмства з адным са значных эпізодаў у станаўленні беларуска-славацкіх культурных сувязей як фактам у біяграфіі Янкі Купалы і яго славацкіх калег па творчасці, а таксама ўзаемная прэзентацыя сучаснай беларускай і славацкай культуры і літаратуры. Удзельнікі праекта даведаліся, чым сёння жыве славацкая літаратура, а таксама пазнаёмілі славакаў з культурнай спадчынай нашай краіны.

Вынік гэтай падзеі — дамоўленасць мэраў гарадоў Браціслава, Святы Юр, Модра і Высокія Татры ўшанаваць памяць класіка беларускай літаратуры. Мяркуецца ўсталяваць мемарыяльныя дошкі ў згаданых гарадах і бюст паэту ў Пешцянах. Рэалізацыя гэтага праекта стане знакавай падзеяй у гісторыі сусветнай культуры і міжкультурных дачыненняў, вартым пераймання прыкладам ушанавання выбітных прадстаўнікоў нашай нацыянальнай культуры і гісторыі ў іншых краінах.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Загадка Стральцова

**У серыі «Беларускі кнігазбор» пабачылі свет «Выбраныя творы» Міхася Стральцова. Чарговая прэзентацыя кнігі адбылася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Удзельнікі сустрэчы расказалі пра асаблівасці працы над выданнем і ўзгадалі цёплымі словамі аднаго з самых лірычных беларускіх празаікаў.**



Знаёмства з творчасцю Стральцова распачыналася кнігамі розных жанраў. Укладальнік «Выбраных твораў» Міхась Скобла ў 1986 годзе разгарнуў зборнік «Мой свеце ясны» — і Міхась Стральцоў назаўсёды стаў для яго адным з самых блізкіх паэтаў. Віктар Карамазаў шанаваў Міхася Лявонавіча як празаіка — і з пэўным засмучэннем успрыняў яго зварот да паэзіі.

Як вынікае з прадмовы Анатоля Сідарэвіча, захапленне Стральцова-празаіка вершамі «настройвала на мінорны лад» многіх іншых пісьменнікаў. «З другое паловы 60-х я пачаў раўнаваць Стральцова. Да паэзіі. Ніяк не мог пагадзіцца, што ён яшчэ і паэт. Нават і сказаць не магу, хто з добрых празаікаў пераходзіў у паэты. А тут чалавек пачаў пісаць рыфмаваныя тэксты... »

Падчас прэзентацыі над «загадкай Стральцова» разважаў і Віктар Карамазаў — адзін з самых блізкіх сяброў пісьменніка. На яго думку, зварот 35-гадовага Стральцова да паэзіі тлумачыўся невялікай цікавасцю да вёскі. Міхась Лявонавіч рэдка наведваў бацькоўскі кут, а гарадскі матэрыял так і не стаў трывалым грунтам для прозы. Шчаслівым узрушэннем былі супольныя вандроўкі ў Ільмень — родную вёску Віктара Карамазава, — жыццё ў лесе разам з паляўнічымі і леснікамі. Але кароткія сустрэчы з Магілёўшчынай натхнялі ўсё ж на вершы...

Празаічны талент Стральцова быў прызнаны не толькі ў Беларусі, але і ў Савецкім Саюзе. Па словах Л. Дранько-Майсюка, імя Міхася Стральцова ведалі ў сярэдзіне 1970-х гадоў студэнты Літінстытута з усяго СССР, адзначалі апавяданне «Смаленне вепрука» як высокаэстэтычны твор, варты абавязковага чытання.

У Літінстытуце Леанід Дранько-Майсюк пачуў гісторыю пра маладога Гі дэ Мапасана, які на працягу сямі гадоў хадзіў да Гюстава Флабера вучыцца пісаць. Гэты расповед натхніў многіх студэнтаў на пошукі свайго Флабэра: «У Давыд-Гарадку дзяўчаты гадамі хадзілі вучыцца шыць да сталых краўчых, хлопцы — да шаўцоў і сталяроў. А я па заканчэнні інстытута ў Маскве прыехаў у Мінск і пазнаёміўся са Стральцовым. Прыносіў яму свае вершы, артыкулы, апавяданні, і пакуль яго жонка, шаноўная Алена Дзмітрыеўна, завіхалася на кухні над пачастункам, мы чыталі і разважалі. Такое сяброўства працягвалася некалькі гадоў. Так у Маскве ў мяне быў адзін літінстытут, а ў Мінску другі, імя якому Міхась Стральцоў».

Акрамя паэзіі і прозы, у восемдзесят другім томе «Беларускага кнігазбора» змешчаны лісты, пераклады, артыкулы і эсэ. Асобнай увагі вартая прадмова А. Сідарэвіча — расповед не толькі пра Міхася Стральцова і яго творы, але і пра літаратурнае жыццё 1960-х — 1980-х гадоў. Каларытныя вобразы тагачасных пісьменнікаў, гісторыі з рэдакцыйных будняў, «легенды і паданні» пра жыццё хрэстаматыйных сёння аўтараў, свабоднае выяўленне ўласнай пазіцыі...

Творы Міхася Стральцова — адна з адметных старонак у гісторыі беларускай літаратуры, і трэба думаць, што выданне «Выбранага» будзе чаканым набыткам для многіх чытачоў.

**Юлія ШПАКОВА**

# Такая вольная прастора…

**Гэтым вераснем у Гомельскі абласны драматычны тэатр з гастролямі прыязджаў Арлоўскі дзяржаўны тэатр для дзяцей і моладзі «Вольная прастора».**

### ПРАДСТАЎЛЕННЕ

Арлоўскі тэатр шмат бываў з гастролямі ў розных гарадах Беларусі. Гэтым разам пашчасціла і гамяльчанам: чатыры спектаклі для дарослых і адзін для дзяцей — музычная казка «Лавіся, рыбка, вялікая».

У мюзікле «Біндзюжнік і кароль» (пастаноўшчык Аляксандр Міхайлаў, кампазітар Аляксандр Журбін) творчы ансамбль Арлоўскага тэатра паказаў сябе прафесійна і яскрава. Кожны акцэнт дзеі дакладна «перадаюць» харэаграфія і вакал, тонка падкрэсліваюць драматургію і сцэнаграфія, святло і гук. З поспехам прайшлі тэатральная фантазія «Ноч перад Калядамі» Мікалая Гогаля (пастаноўка Аляксандра Плятнёва) і спектакль «Я не вярнуся» паводле кінасцэнарыя Яраславы Пуліновіч (рэжысёр Глеб Валодзін). У пастаноўцы «З каханымі не расставайцеся» (рэжысёр Ларыса Лемянкова) шмат эцюднага, пошук характараў, але пры гэтым спектакль душэўны, тонкі, знаходзіць водгук у сучаснага гледача.

У розныя гады на сцэне Арлоўскага тэатра «Вольная прастора» выступалі з абменнымі гастролямі калектывы з Гомеля, Магілёва і Віцебска. Гэтая традыцыя працягнецца пасля завяршэння рамонту будынка тэатра ў Арле напрыканцы снежня 2015-га. Аляксандр Міхайлаў упэўнены: у наступным сезоне яны абавязкова зноў запросяць гамяльчан у госці. Добра было б пабачыць у Арле і сталічныя беларускія тэатры! У сваю чаргу, арлоўскі тэатр хацеў бы прывезці ў Мінск свае спектаклі — «Наташына мара», «Прадавец дажджу», «Лэдзі Макбет Мцэнскага павета» і многія іншыя.

### «СЯМЕЙНЫ ПАДРАД»

Варта ўзгадаць адмысловы «сямейны падрад» творчай сям'і Міхайлавых. Так, аўтарам і пастаноўшчыкам дзівоснага і нечаканага (з сапраўднымі цыркавымі фокусамі) дзіцячага спектакля «Кот супраць Людажэра» выступіў Аляксандр Міхайлаў. Дачка Марыя, што прыязджае працаваць у Арол з Ізраіля, стала сцэнографам, а сын Аляксандр, які скончыў Харкаўскую кансерваторыю, напісаў музыку. Такая сумесная творчая праца адбылася і ў мюзікле «Біндзюжнік і кароль»: музыку Аляксандра Журбіна ў ім таксама аранжыраваў Аляксандр Міхайлаў-малодшы, а Марыя была сцэнографам і мастаком па касцюмах.


Аляксандр Міхайлаў.


Сцэна са спектакля.

Трыа выдатна рэалізавалася і ў арлоўскай пастаноўцы знакамітай музычнай камедыі «Ханума», дзе Аляксандр Міхайлаў-малодшы аранжыроўкай узмацніў джазавыя мелодыі Гіі Канчэліі, а яго сястра стварыла далікатныя, пастэльныя, амаль манахромныя па колеры касцюмы і арыгінальныя дэкарацыі.

Дарэчы, дэкарацыі, якім мастацкі кіраўнік тэатра надае асаблівае значэнне, як правіла, выкананы ў сучаснай манеры трансформераў. Многія рашэнні плоскасныя, што зручна пры гастрольных пераездах. Цудоўны ўзор для перайманне пастаноўшчыкам і сцэнографам!

### КРЫЗІС ІНТЭРПРЭТАЦЫІ

— Сёння рэжысёрскія спробы ў соты раз інтэрпрэтаваць, напрыклад, А. Чэхава некалькі «прыеліся», і таму глядач адгукаецца на іх ужо не з такім энтузіязмам, — мяркуе Аляксандр Міхайлаў. — Тым не менш кожная новая версія класічнага твора — магчымасць для рэжысёра выказаць сябе як мастака. Маё стаўленне да розных спрэчных сучасных вынаходніцтваў абсалютна памяркоўнае. Забараняць бессэнсоўна. Гэта не пройдзе, як хвароба росту. Гэта застанецца. Кожнае новае пакаленне будзе па-новаму інтэрпрэтаваць класіку. У гэтым адрозненне тэатра ад кіно, дзе з'яўляюцца новыя сцэнарыі і дзе рэмэйкі дастаткова рэдкія. У XIX і ў пачатку XX стагоддзя былі каноны, традыцыі, а цяпер традыцыяй стала ўсё новае. Напрыклад, некалькі гадоў таму ў нас ставіў «Маленькія трагедыі» А. Пушкіна рэжысёр з Санкт-Пецярбурга Генадзь Трасцянецкі. Дзёрзкі, нестандартны падыход, аднак у той жа час вельмі глыбокі! Мы ягоігралі на Пушкінскім фестывалі, і вядомыя пушкіністы былі прыемна ўражаныя гэтай працай, лічылі яе адкрыццём. Часцей за іншых іграем «Моцарт і Сальеры», самую цікавую з чатырох сцэн. Верагодна, мы маглі б прывезці яе на наступныя гастролі ў Беларусь. Сёння, хутчэй, трэба казаць не пра крызіс тэатра, а пра яго бурнае развіццё.

### ЭКСПЕРЫМЕНТЫ ЗА МЯЖОЙ

— У Амерыцы пераважаюць традыцыйныя тэатры, — адзначыў Аляксандр Міхайлаў. — Яны прафесійна ставяць мюзіклы і ўвогуле працуюць у традыцыйным рэалістычным плане. Вельмі рэдка нейкія невялікія тэатры наважваюцца на эксперымент. Калі казаць пра эксперыментальныя рэчы, то гэта Еўропа: Германія, Францыя, Польшча. Але там мы бываем не так часта, каб казаць пра гэта прафесійна. Дарэчы, чуў, што летась у Мінску рэжысёр з Санкт-Пецярбурга Анатоль Праўдзін добра паставіў Мальера ў Купалаўскім тэатры. Ведаю пра ўдалы спектакль «Візіт дамы» Барыса Луцэнкі ў мінскім тэатры імя М. Горкага.

Увесну Аляксандр Міхайлаў наведаў Міжнародны конкурс драматургіі, які праводзіцца ў Маскве Школай сучаснай п'есы. У Клас маладой рэжысуры было даслана 300 п'ес, з якіх адабралі 12. І ўсе 12 былі прадстаўлены пастановачнымі ўрыўкамі. Адна з п'ес спадабалася рэжысёру настолькі, што ён адразу прыняў рашэнне паставіць яе ў тэатры. Гэта п'еса «Дурнічка і зэк» Уладзіміра Лідскага, які жыве ў Кіргізіі. А. Міхайлаў лічыць, што цяпер можна казаць пра росквіт драматургіі, у тым ліку і дзякуючы яе колькасці.

### РАЗУМЕННЕ І ДАПАМОГА

Гастролі «Вольнай прасторы» па Беларусі калі не акупляюцца, то хаця б не ў мінусе. Падтрымка грантамі ад Міністэрства культуры даецца на гастролі па Расіі — сціплую датацыю на гастролі ў Беларусь прадастаўляе абласная адміністрацыя. Таму А. Міхайлаў перакананы: тэатральныя абмены, як і агульную культурную прастору, неабходна падтрымліваць на дзяржаўным ўзроўні, напрыклад, шляхам міждзяржаўнай праграмы культурных абменаў.

**Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

**Даведка «ЛіМа»**

Аляксандр Міхайлаў нарадзіўся ў сям'і артыстаў у 1951 годзе. Сярэднюю школу скончыў у Магілёве. Пасля сям'я пераехала ў Расію. У 1973-м скончыў фізіка-матэматычны факультэт Універсітэта Дружбы Народаў імя Патрыса Лумумбы, у 1980-м — факультэт рэжысуры Харкаўскага інстытута мастацтваў імя І. П. Катляроўскага. Аляксандр Аляксеевіч ставіў спектаклі ва Украіне, Расіі, а яшчэ — у Каліфарнійскім Тэатральным Цэнтры (ЗША). Выкладаў акцёрскае майстэрства ў Каліфарнійскім дзяржаўным універсітэце Мантэрэй-Бэй. З 1996 г. — кіраўнік акцёрскага курса Арлоўскага дзяржаўнага інстытута мастацтваў і культуры. З 1987 года — галоўны рэжысёр, затым — мастацкі кіраўнік Арлоўскага тэатра для дзяцей і моладзі «Вольная прастора».

# Галоўны прыз — у гамяльчан

На Міжнародным фестывалі лялечных тэатраў «Асалаўкмагалейкум-2015», які адбыўся ў казахстанскім горадзе Актобэ, Гомельскі дзяржаўны тэатр лялек паказаў казку «Не ўсе зайцы — баязліўцы» па п'есе вядомага беларускага драматурга, лаўрэата прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Васіля Ткачова. Рэжысёр спектакля — Дзмітрый Гарэлік.

Нягледзячы на вялікую канкурэнцыю, — а ў фестывалі бралі ўдзел восем калектываў з краін СНД, — галоўны прыз — за лепшы спектакль — у гамяльчан.

Спектакль «Не ўсе зайцы — баязліўцы» змаглі ўбачыць у апошні час маленькія гледачы ў Душанбэ, Белградзе, Курску, Самары, Томску і Сыктыўкары. Ён стаў своеасаблівай візітнай карткай тэатра.

**Міхась КАВАЛЁЎ**

# Марка на тэму

**Прэзентацыя паштовага праекта «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі» адбылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Напрыканцы верасня Міністэрства сувязі і інфарматызацыі краіны выпусціла ў абарачэнне паштовыя маркі.**





Фота Кастуся Дробава.

На гэты раз — «Восіп Цадкін. Возера. 1925», «Хаім Суцін. Ева. 1928», «Марк Шагал. Закаханыя. 1981», «Восіп Любіч. Пейзаж з чырвоным дахам».

З 1992 года ўжо выпушчана 1088 паштовых марак. Больш як 300 з іх адлюстроўваюць набыткі нацыянальнай культуры, мастацтва, архітэктуры, літаратуры. Непаўторную філатэлістычную галерэю складаюць паштовыя мініяцюры, прысвечаныя айчынным майстрам жывапісу і графікі, рэпрадукцыям іх лепшых твораў — больш як 50 праектаў.

У 2013 годзе Міністэрства сувязі і інфарматызацыі пачало выпускаць серыю юбілейных канвертаў з арыгінальнай маркай на тэму «Жывапіс», прысвечаных творчасці выдатных мастакоў Беларусі — В. Цвіркі, Я. Драздовіча, П. Масленікава, А. Гугеля...

Выпуск, прысвечаны творчасці мастакоў Парыжскай школы з Беларусі, зойме годнае месца ў філатэлістычных калекцыях і стане выдатным падарункам аматарам мастацтва.

**Таццяна ШЧЭРБА**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

# Напамін пра Першую сусветную

**Гэтая вайна пакінула на нашай зямлі шмат слядоў. У вёсцы Осаўцы Драгічынскага раёна побач са Свята-Міхайлаўскай царквой знаходзяцца магілы загінуўшых салдат.**





Халодныя бетонныя надмагіллі з надпісамі на польскай мове… На некаторых — нямецкія прозвішчы, на іншых напісана: «NIEZNANYCH» — гэта значыць «невядомы». Некаторыя старажылы ведаюць, як і калі з'явіліся гэтыя могілкі — добра, што бацькі распавялі.

На тэрыторыі Беларусі ваенныя дзеянні Першай сусветнай праходзілі з 1915 па 1918 год і мелі зацяжны характар: руская войскі паступова адыходзілі ўглыб імперыі. Брэсцкая вобласць уваходзіла ў зону баявых дзеянняў Заходняга фронту, якім са жніўня 1915-га камандаваў генерал ад інфантэрыі Аляксей Эверт. Штаб фронту знаходзіўся ў Мінску.

Пасля сыходу мірнага насельніцтва на ўсход пачаліся баі з немцамі. Старажылы Осаўцаў распавядалі, што лінія абароны рускіх войск тады праходзіла па краі сённяшняй вёскі. Нават і цяпер можна знайсці ў лесе ледзь прыкметныя сляды акопаў. Пад Осаўцамі адбыўся бой: руская спрабавалі спыніць наступленне германцаў. Пасля працяглай і жорсткай абароны не змаглі затрымаць ворага, адступілі.

Немцы занялі вёску. У іх было шмат параненых і забітых. Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, частку забітых салдат з абодвух бакоў пахавалі побач з царквой, каля лесу. На кожнай асобнай магіле ставілі драўляны крыж з прозвішчам. А ў пустых сялянскіх хатах абсталявалі палявы шпіталь, куды звозілі параненых. Памерлых пасля ранення таксама хавалі за царквой.

Немцы ўладкавалі тут як бы вайсковы мемарыял. На ўваходзе — драўляная брама з выразаным надпісам па-нямецку. Мясцовы жыхар М. Шрамук запомніў гэты надпіс, і калі падчас нямецкай акупацыі яго вывезлі на працу ў Германію, расказаў пра гэта сваім гаспадарам. Немцы растлумачылі: гэта эпітафія з філасофскім сэнсам.

Яшчэ мясцовыя жыхары распавядаюць, што на гэтых могілках быў пахаваны разам з салдатамі старэйшы нямецкі афіцэр, верагодна маёр, які памёр у шпіталі ад ран. Быў ён з багатай сям'і. Пасля заканчэння вайны ўдава дасылала з Германіі грошы ў Асавецкую гміну — орган тагачаснай польскай улады. У пісьме жанчына прасіла, каб купілі кветкі на магілу мужа, каб даглядалі яе. Пра грошы паклапаціліся.

З цягам часу драўляныя крыжы на магілах прыйшлі ў непрыгоднасць. Сталі замяняць на стандартныя бетонныя плоскія пліты (1920-я —1939 г.). Верхняя плоскасць такой пліты была выканана ў форме стылізаванага крыжа надпісам на польскай ці нямецкай мове. Драўляная брама не захавалася, як і некаторыя надмагіллі. Так наша зямля прыняла і прымірыла загінуўшых салдат варожых бакоў.

**Даведка «ЛіМа»**

Аляксандр Паўлюковіч — аўтар праекта «Каб ведалі ды помнілі. Спаленыя вёскі Лагойшчыны», якім займалася лагойская раённая газета «Родны край», і шматлікіх артыкулаў па гісторыі роднай Драгічыншчыны. Тэмай спаленых вёсак краязнаўца пачаў займацца пасля таго, як даведаўся, што дзед жонкі ў вайну быў спалены жывым разам з вяскоўцамі, а другі яе дзед з сям'ёй цудам выратаваўся. Аднак гісторыяй Аляксандр Пятровіч зацікавіўся яшчэ ў школе: усё пачалося з дыскусіі з настаўніцай наконт матэрыялаў з падручніка, якія іншы раз не супадалі з успамінамі відавочцаў, асабліва па вайне і даваенным жыцці ў Заходняй Беларусі. Яшчэ будучы школьнікам пачаў запісваць успаміны старажылаў. Аповеды ў спалучэнні з працай у архівах і вывучэннем мемуарнай і гістарычнай літаратуры дазволілі падрыхтаваць шмат цікавых матэрыялаў.

**Аляксандр ПАЎЛЮКОВІЧ, фота аўтара**

# З лёгкай рукі Міхася Лынькова

Семдзесят гадоў таму ў часопісе «Полымя» з сёмага па дзявяты нумар за 1945 год друкаваліся дарожныя нататкі Міхася Лынькова «Шляхамі вайны». Гэтая дакументальная кніга склалася пад уражаннем самых розных сустрэч на ваенных шляхах, у першую чаргу — з тымі, хто летам 1944 года вызваляў Беларусь.

Міхась Лынькоў пільна ўглядаўся ў аблічча савецкіх воінаў, запісваў у нататнік расповеды пра баі. Мне ўдалося прасачыць далейшы шлях трох чалавек, якія сталі героямі кнігі. Першы з іх — лейтэнант Іван Сівашчук. У «Шляхах вайны» ён апісваецца так:

«Чорныя орды гітлераўцаў уварваліся на родныя палі. Камбайнер Сівашчук ідзе ў ваенкамат, камандзірам сапёрнага ўзвода едзе ён у Сталінград. Потым становіцца артылерыстам, камандзірам агнявога ўзвода. Удзельнічае ў акружэнні Сталінградскай групіроўкі немцаў».

А вось так лейтэнант Сівашчук ваяваў на беларускай зямлі:

«Пад станцыяй Наваельня батарэя Сівашчука шчыльна падышла да калоны нямецкіх транспарцёраў. На хаду расставілі гарматы, стукнулі беглым агнём. Немцы кінуліся ўрассыпную. Многія з іх асталіся ляжаць навек. Пад Ваўкавыскам, каля вёскі Ярылаўка, артылерысты ўбачылі вялікую калону немцаў, адыходзіўшых на захад. Стукнулі з батарэі, рассеялі немцаў. Перад Ярылаўкаю была рачулка, мост сарваны. Не дачакаўшыся сапёраў, выкарысталі ветравыя шчыты, перацягнулі цераз раку гарматы, уступілі ў паядынак з нямецкімі самаходкамі».

За баі на тэрыторыі Гродзеншчыны Івана Сівашчука ўзнагародзілі ордэнам Чырвонага Сцяга. Далей ён змагаўся ў Польшчы і Германіі, вайну закончыў у Берліне. Потым камандзір вярнуўся ў родныя мясціны ва Украіну. У 1985 годзе ў гонар святкавання 40-годдзя Перамогі быў адзначаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені.

Маёр Кутузаў у апісанні М. Лынькова выглядае наступным чынам:

«Яму толькі дваццаць пяць гадоў. Малады, энергічны твар. І ўвесь ён, уся яго сабраная, падцягнутая фігура, яго рукі, жэсты — усё ў руху, як жывое срэбра. Аляксей Мікалаевіч Кутузаў камандуе асобным знішчальным супрацьтанкавым дывізіёнам. З ім прайшоў ён па Беларусі з баямі ад Новага Быхава да Беластока. Аб сабе гаворыць скупа, неахвотна».

Але ўсё ж пісьменніку давялося разгаварыць маёра. Той нарэшце расказаў пра свой бой пад вёскай Кур'яны непадалёк ад Беластока:

«Тугавата нам прыйшлося. Бачу я, сунуцца на нашы тры гарматы чатыры самаходкі з аўтаматчыкамі. Яны старанна замаскіраваны, так што і не пазнаеш адразу, чые. Але па некаторых адзнаках апазнаю ў іх нямецкія машыны. Парашыў не раскрываць усіх сваіх агнявых сродкаў. Загадаў адкрыць агонь адной гарматай па пяхоце. Паклалі пяхоту. Самаходкі прусь. Адкрылі па іх агонь. Немцы адкаціліся. Быў я тут паранены».

Сустракаючыся з Міхасём Лыньковым, Кутузаў яшчэ не ведаў, што за той бой яго ўзнагародзілі ордэнам Айчыннай вайны I ступені. Пасля выпіскі са шпіталя маёр ваяваў у Польшчы. Я адшукаў архіўны дакумент, у якім гаворыцца, што 16 студзеня 1945 г. Кутузаў быў цяжка паранены і кантужаны, аднак здолеў выжыць і на гэты раз. У шпітальнай даведцы адзначана, што маёра выпісалі 6 мая 1945 г., ён вярнуўся ў родны дывізіён і служыў там яшчэ некаторы час пасля перамогі.

На ваенных перакрыжаваннях М. Лынькоў сустрэўся і са сваім равеснікам. Сапёр Павел Маркін, як і беларускі класік, нарадзіўся ў 1899 г. Чытач бачыць яго такім:

«Ён весяльчак і гаварун, вусы вялікія і рыжыя. Сам ён з Тулы. Гадоў з дванаццаці працаваў кандзіцерам. Гадоў з васемнаццаці перамяніў прафесію і замест крэндзеляў, усялякай салодкай здобы заняўся вырабам ружжаў, стаў тульскім аружэйнікам».

Лынькоў сустрэўся з сапёрам у канцы жніўня. У салдата наперадзе было яшчэ шмат баёў. Дайшоў да Берліна. 11 мая 1945 г. камандаванне падпісала загад аб узнагародзе Паўла Маркіна ордэнам Айчыннай вайны I ступені.

Усе трое здолелі выжыць у баях і вярнуцца дадому. Ці не з лёгкай рукі Міхася Лынькова?

**Юрый КАМЯГІН**

# Нагода для сустрэч

**Горад Тураў нядаўна адсвяткаваў 1035-годдзе. У межах урачыстасцей адбылася творчая сустрэча землякоў у тураўскай сярэдняй школе № 1 ды дабрачынная сустрэча ў сацыяльным доме састарэлых г. Турава і г. Жыткавічы.**

У імпрэзах узялі ўдзел лаўрэат міжнародных конкурсаў, ганаровы грамадзянін Турава Мікола Котаў, дыпламант музычных фестываляў, кампазітар Сяргей Страх, а яшчэ — цэлы сямейны ансамбль — Валянціна Барыгіна-Абібок, яе сын Мікола і ўнучка Маша.

«Расклад» гістарычных угодкаў уключаў мноства цікавостак: творчая сустрэча землякоў з вучнямі і настаўнікамі Запясоцкага дзіцячага саду — базавай школы вёскі Запясочча Жыткавіцкага раёна ды жыхарамі Турава ў Тураўскім гарадскім Доме культуры, адкрыццё культурна-адукацыйнага цэнтра г. Турава, прэс-канферэнцыя з удзелам народнага артыста Беларусі, прафесара Міхаіла Фінберга ў Тураўскім гарвыканкаме. Прайшлі шматлікія выстаўкі, творчыя пляцоўкі, канцэрты… Фінальным акордам юбілейных урачыстасцей стала ўскладанне кветак да помніка асветніку Кірылу Тураўскаму на Замкавай гары.

**Анжэла ПРАЖАН**

# Цуды керамічныя


Фота Кастуся Дробава.
Антон Ціхнавец «Можа быць».

**Днямі ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» адкрылася выстаўка «Кераміка ночы». Экспазіцыя — плён працы ўдзельнікаў XIII Міжнароднага пленэру па кераміцы «Арт-Жыжаль».**

Фэст зладзілі летам на маляўнічым беразе ракі Бярэзіны, у Бабруйскім раёне. Сёлета туды з’ехаліся прафесійныя керамісты з Беларусі, Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Польшчы, Малдовы, Францыі, Японіі. Цягам трох тыдняў у своеасаблівай майстэрні пад адкрытым небам адбываліся сапраўдныя цуды: гліна, дзякуючы абпалу, ператваралася ў творы мастацтва. Усяго было зроблена звыш сотні работ, лепшыя з іх цяпер могуць пабачыць наведвальнікі ўстановы.

У экспазіцыі — вырабы Валерыя і Максіма Калтыгіных, Анатоля Концуба, Ганны Амбросавай, Вольгі Сямашка, Разаліны Бусел, Арцёма Максімава, Дзіяны Вернеры, Юргіты Ясінскайтэ, Юры Фукуока ды іншых. Кожны ўдзельнік пасвойму раскрыў тэму «Чалавек у навакольным асяроддзі». Не перастаеш дзівіцца фантазіі творцаў: тут «пасяліліся» дзіўныя істоты, персанажы казак, міфаў і легенд, фантастычныя жывёлы, птушкі і рыбіны… Дэманструюцца таксама разнастайныя талеркі, гаршкі, вазы, абстрактныя кампазіцыі і насценныя пано. А ў цэнтры размясцілася калектыўная вогненная скульптура, над якой працавалі ўсе ўдзельнікі пленэру.

Работы, выкананыя ў тэхніках абвару, дымлення, раку, хаваюць шматлікія таямніцы і сімвалы, семантычныя знакі, якія дайшлі ад продкаў. У іх — гарманічнае спалучэнне шматвекавых традыцый і сучаснага творчага падыходу.

«Геаграфія фэсту штогод пашыраецца, а ўдзельнікі маладзеюць. На пленэр завітваюць не толькі сталыя, добра вядомыя ў нашай краіне керамісты, але і зусім маладыя, якія толькі пачынаюць спасцігаць гэты від мастацтва», — паведаміў падчас адкрыцця экспазіцыі кіраўнік пленэру, вядомы кераміст Валерый Калтыгін.


Ткачоў Алег «Гульня ў Хэмінгуэя».

Адметнасці сёлетняга пленэру — перапляценне культур і школ, выкарыстанне арганікі, праца з аксідамі, солямі, палівамі і агнобамі. А таксама — апрабаванне найноўшых тэхналогій: некет-раку, тэрасігілата, пітфаер… Новым досведам стала і стварэнне так званай «бутэлькавай» печы.

Паводле старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы, «Арт-Жыжаль» — унікальная з’ява ў мастацкім жыцці краіны.

Выстаўка будзе працаваць да 25 кастрычніка. Па заканчэнні экспанавання лепшыя творы папоўняць калекцыю Бабруйскага мастацкага музея.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Сустрэнемся… на балі

**Гэтай восенню ў наведвальнікаў Лошыцкай сядзібы ёсць унікальная магчымасць пабачыць убранне беларускіх модніц XIX — пачатку XX стагоддзя. Тут адкрылася выстаўка жаночага свецкага касцюма «Куфэрак: шаноўная пані».**

Экспазіцыя — сумесны праект Музея гісторыі горада Мінска і творчай групы «Куфэрак». Прадстаўлены рэканструкцыі бальных, вячэрніх, прагулачных і будзённых строяў. Аматары-энтузіясты выканалі касцюмы па матывах арыгінальных мадэлей, з улікам асаблівасцей крою таго перыяду.

— Беларускія строі звычайна ўяўляюць наступным чынам: вышываная кашуля, сукенка, фартух, лапці… Так апраналіся ў сельскай мясцовасці, у той час як знешні выгляд гараджанкі строга рэгламентаваўся павевамі моды, — распавяла куратар выстаўкі Святлана Іванова-Клiманская. — Мэтай стала прадэманстраваць багацце і разнастайнасць свецкага ўбрання.



Адкрываюць экспазіцыю папулярныя на пачатку XIX стагоддзя ампірныя строі. Лёгкія, трапяткія, вытанчаныя, яны нагадваюць старажытнагрэчаскія тунікі. Высокая талія, бруістыя драпаваныя сукенкі з арнаментамі, маленькія туфлікі, перапляценыя стужкамі на антычны манер, — нязменныя рысы жаночага ўбрання таго перыяду.

Далей — мода эпохі рамантызму і бідэрмаеру. Заўважна, што паненкі ўжо адышлі ад прыпадабнення велічным рымлянкам ды грачанкам, і цяпер імкнуцца да рамантычнага, сентыментальнага вобраза. Сукенкі становяцца ўсё больш шырокімі, рукавы — аб’ёмнымі, талія сцягваецца жорсткім карсетам. У 1850-я ў моду ўвайшлі крыналіны — металічныя каркасы, якія рабілі ўбранне больш пышным. Такое адзенне каштавала вельмі дорага і нават было небяспечным, але ўсё роўна мела вялікую папулярнасць.



Экспануюцца строі з турнюрамі — прыстасаваннямі ў выглядзе маленькай падушкі ці ажурнага стальнога валіка, якія надавалі строям новы сілуэт. Тут можна пабачыць і адзенне стылю мадэрн. Паступова гараджанкі адмовіліся ад пышнага аддзення, аддаючы перавагу строгім прамым сілуэтам.

Строі, прадстаўленыя ў экспазіцыі, суправаджалі жанчыну падчас святочных баляў і пікнікоў, візітаў гасцей, рамантычных спатканняў і шпацыраў… Яны неаднолькавыя па настроі: адны лёгкія, летуценныя, рамантычныя, другія — загадкавыя, таямнічыя, нават крыху змрочныя. Усе пашытыя з натуральных тканін, аздобленыя пацеркамі, бліскаўкамі, карункамі... Нельга не звярнуць увагу на разнастайныя аксесуары: пальчаткі, галаўныя ўборы, сумкі, вееры, парасоны ды інш.

Выстаўка будзе працаваць да 1 снежня. Наведаць установу мае сэнс неаднойчы — напрыканцы кожнага месяца экспазіцыя будзе абнаўляцца. Да таго ж гасцей чакае мноства цікавостак: танцавальныя майстар-класы, літаратурныя чытанні, лекцыі па гісторыі касцюма ды многае іншае.

**Ганна ПАЛЯКОВА, фота аўтара**

## Млын навін

# З беларускім каларытам

Самара адзначыла чарговы дзень нараджэння. У Год літаратуры, якім абвешчаны 2015-ы ў Расіі, гэты горад носіць званне бібліятэчнай сталіцы краіны. Асноўная тэма Дня горада — прыгожае пісьменства. Самарскія беларусы ўзялі ўдзел у выстаўцы нацыянальных літаратур, дзе прадставілі творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча і іншых класікаў айчыннай літаратуры.

Сёлета Самарскай абласной грамадскай арганізацыі беларусаў і выхадцаў з сінявокай «Руска-Беларускае Братэрства-2000» споўнілася 15 гадоў. Гэтая падзея знайшла месца падчас урачыстасцей у гонар Дня горада. Ганаровай граматай кіраўніка Адміністрацыі і Думы гарадской акругі Самара і Нагрудным знакам І ступені ўзнагароджана кіраўнік арганізацыі Ірына Глуская, ІІІ ступені — мастацкі кіраўнік вакальнага ансамбля «Каданс» Іна Сухачэўская і кіраўнік маладзёжнага аддзялення, памочнік прэзідэнта арганізацыі Юлія Цяплянская. Падзячныя лісты атрымалі салісткі вакальнага ансамбля «Каданс» Марына Кірылава ды Таццяна Марозава і намеснік кіраўніка маладзёжнага аддзялення Георгій Курмакоў. Акрамя гэтага, у гонар 15-годдзя Падзяка кіраўніка Адміністрацыі і Думы гарадской акругі Самара ўручана САГА «Руска-Беларускае Братэрства 2000» і ансамблю «Каданс».

Чым яшчэ запомніўся самарскім беларусам Дзень горада? Відэавіншаваннямі ад кіраўнікоў гарадоўпартнёраў — старшыні Гомельскага гарвыканкама Пятра Кірычэнкі і старшыні Віцебскага гарвыканкама Віктара Нікалайкіна.

Яркі, непаўторны нацыянальны каларыт у святочныя ўрачыстасці ўнёс і беларускі вакальна-інструментальны ансамбль «Спадчына», запрошаны ў Самару Ірынай Глускай. «Алеся», «Рушнікі» і іншыя песні ў выкананні гэтага таленавітага калектыву не пакінулі абыякавымі.

**Мікалай БОЙКА**

* * *

Нядаўна ў гарадскім пасёлку Круглае адбыўся абласны фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі «Дажынкі-2015». Ушанoўвалі лепшых хлебаробаў Магілёўскай вобласці.

Творчыя пляцоўкі з фальклорнымі калектывамі, майстрамі народнай творчасці, аматарскімі тэатрамі, танцорамі, вакалістамі з усёй Магілёўшчыны, разнастайныя праграмы ад работнікаў клубных устаноў...

Каларытна выглядалі пляцоўкі «Ад спадчыны да сучаснасці» і «Багач талентаў Магілёўшчыны» з работамі майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: кераміка, вышыўка, саломапляценне, бондарства... Вялікую цікавасць выклікалі майстар-класы па розных відах рамёстваў. Займальна была арганізавана работа тэматычнай старонкі «З крыніц народных» з музейна-гістарычнай экспазіцыяй пра гісторыю развіцця беларускіх рамёстваў.

На творчай пляцоўцы «Талака на Прыдняпроўі» былі прадстаўлены розныя тэматычныя экспазіцыі. На вачах у гасцей гатавалі стравы беларускай нацыянальнай кухні, праводзілі дэгустацыю.

**Ганна ТУЗЯНКОВА**

* * *

Усім, хто пабывае ў Карэлічах, раю наведаць аддзел рамесніцкай дзейнасці «Карэліцкі Дом рамёстваў». Уражвае веліччу саламяны «Зубр», застыў у грацыёзнай позе малады скакун. Гэта ўнікальныя творы майстра Веры Салдатавай. Яшчэ ў дзяцінстве яна палюбіла працу з саломкай. Творы майстра адзначаны шматлікімі граматамі, дыпломамі, выстаўляліся ў музеях Масквы, Лондана і інш.

Шчыра цікавяцца рамёствамі мясцовыя хлопчыкі і дзяўчынкі. Падтрымлівае майстар Наталля Жук. Дзеці спярша няcмела ўключаюцца ў працэс, але літаральна на вачах саламяныя вырабы становяцца творам мастацтва.

Праз стагоддзі дайшла да нас практыка работы з бісерам: навучыліся апрацоўваць камень, вынайшлі шкло, адшліфавалі да бусінак. Сёння бісер вельмі папулярны: бісернае дрэва, абразкі, выкананыя тэхнікай шытва бісерам.

Працуюць у Доме рамёстваў і з выцінанкай. Простыя сюжэты з жыцця людзей, жывёлы, расліны — у папяровых узорах. Найбольш увагі патрабуе вышыўка. На іншую работу можна затрацiць і год.

— Мы ўдзельнічаем у многіх выстаўках, — распавяла загадчыца аддзела рамесніцкай дзейнасці Юлія Баярэнка. — Нашы творы экспанаваліся на рэспубліканскім фестывалі «Вясновы букет», на Дні пісьменства ў Шчучыне.

**Мікола БУСЬКО**

# Восень з водарам Парыжа

**Выстаўка-продаж твораў сучасных маладых беларускіх мастакоў «Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам» адкрылася ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў (Палац мастацтва).**

Прысвечаны 25-годдзю Белгазпрамбанка, унікальны арт-праект «Восеньскі салон» з'яўляецца часткай маштабнай банкаўскай ініцыятывы «Арт-Беларусь» па рэканструкцыі працэсу развіцця беларускай культуры. Папярэднія мастацкія праекты Белгазпрамбанка дэманстравалі багатае мінулае мастацтва. «Восеньскі салон» ладзіцца з намерам раскрыць сучасны патэнцыял і перспектывы.



*Васіль Пяшкун «Бабіна лета», 2013 г.*

З гэтай мэтай была сфарміравана экспазіцыя, што складаецца з твораў 90 лепшых беларускіх мастакоў ад 18 да 40 гадоў, якія прайшлі адборачны тур і прэтэндуюць на прэмію «Арт-Беларусь», заснаваную Белгазпрамбанкам. Работы, прадстаўленыя ў Палацы мастацтва, выкананыя цягам апошніх трох гадоў у самых розных мастацкіх тэхніках (жывапіс, графіка, скульптура, пластыка са шкла, фатаграфія, інсталяцыя). Гэта лепшае са створанага ў пачатку XXI стагоддзя маладым пакаленнем айчынных мастакоў.

Арганізатары кіраваліся намерам узнавіць атмасферу рэальных парыжскіх Восеньскіх салонаў пачатку мінулага стагоддзя, якія славіліся наватарскай арыентацыяй і дэмакратычнымі традыцыямі. Так, сярод удзельнікаў «Восеньскага салона» ў Мінску апынуліся як досыць дасведчаныя майстры, члены Беларускага саюза мастакоў, так і студэнты Акадэміі мастацтваў, а яшчэ таленавітыя творцы, якія не маюць спецыяльнай мастацкай адукацыі.

У выстаўцы бяруць удзел і прадаўжальнікі традыцый класічнага мастацтва, і прыхільнікі сучасных нетрадыцыйных мастацкіх стратэгій. Сярод канкурсантаў ёсць лаўрэаты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, прадстаўнікі вядомых у нашай краіне мастацкіх дынастый.

Побач з творамі сучасных беларускіх аўтараў — шэдэўры сусветнага жывапісу і скульптуры з карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка, створаныя нашымі знакамітымі суайчыннікамі, прадстаўнікамі легендарнай Парыжскай школы, рэальнымі ўдзельнікамі французскіх Восеньскіх салонаў першай паловы XX стагоддзя. Разам з упадабанымі творамі Хаіма Суціна і Міхаіла Кікоіна мінскай публіцы ўпершыню прадстаўлены апошнія з банкаўскіх набыткаў: гуаш «Лунацік» Марка Шагала, палатно «Ноч святога Іаана» Дзмітрыя Стэлецкага, літаграфія «Гарадскі пейзаж» Восіпа Любіча, скульптуры Паліны Хентавай і Леона Індэнбаўма, малюнкі Яўгена Зака.



*Захар Кудзін «Партрэт сучасніка», 2011 — 2015 гг.*

Важна, што найбольш перспектыўныя аўтары атрымаюць рэальны шанц пашырыць гарызонты сваёй кар'еры. Прызавы фонд заснаванай прэміі ў суме, эквівалентнай 25 тысячам еўра, разлічаны на фінансаванне будучых праектаў і творчых стажыровак пераможцаў.

Ацэньваць удзельнікаў будзе аўтарытэтнае журы, у складзе якога — прызнаныя эксперты ў галіне сучаснага мастацтва міжнароднага ўзроўню. Уладальніка прыза глядацкіх сімпатый вызначаць наведвальнікі выстаўкі, а таксама ўдзельнікі анлайн-галасавання на сайце *artbelarus.by.*



*Марк Шагал «Самнамбула», 1911 — 1912 гг.*

Мэта праекта «Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам» — прадставіць Беларусь часткай сучаснай сусветнай арт-індустрыі. Для гэтага арганізатарамі робяцца крокі па фарміраванні айчыннага рынку твораў мастацтва. Так, усе работы, якія ўдзельнічаюць у праекце, ацэнены самімі аўтарамі і прапануюцца наведвальнікам для набыцця. Старшыня Белгазпрамбанка Віктар Бабарыка адзначыў: «Калі з'явяцца галерэі і аўкцыённыя дамы, будзе працаваць сістэма бізнес-адносін, тады можна будзе казаць пра паўнавартасны арт-рынак з продажамі і прасоўваннем. У гэтым сэнсе «Восеньскі салон» вырашае задачы па пошуку патрэбных механізмаў для працы».

«Восеньскі салон з Белгазпрамбанкам» — гэта яшчэ і насычаная адукацыйная праграма (лекцыі, «круглыя сталы», заняткі з дзецьмі). Адбываецца дыялог публікі з мастацкім светам.

Плануецца, што арганізацыя «Восеньскага салона» і заснаваная прэмія «Арт-Беларусь» стануць штогадовай традыцыяй, якая ўпрыгожыць культурнае жыццё беларускай сталіцы.

Арганізатары арт-праекта: ААТ «Белгазпрамбанк», Саюз беларускіх мастакоў, Рэспубліканская мастацкая галерэя (Палац мастацтва), Цэнтр візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн» — пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі і Пасольства Францыі ў нашай краіне.

Выстаўка-продаж будзе працаваць да 8 лістапада.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Пачастуйся «Джэмам»!

**Упершыню ў Мінску адбыўся тэатральны фестываль для ўсёй сям'і «Казачны джэм». На працягу дня бацькі з дзецьмі прыходзілі ў Цэнтр сучасных мастацтваў, каб паслухаць цікавыя казкі, паўдзельнічаць у разнастайных майстар-класах і пабачыць дзіцячыя спектаклі.**

Мерапрыемствы «Казачнага джэму» былі разлічаны як на самую малодшую, так і на сярэднюю дзіцячую аўдыторыю. Адначасова ў Цэнтры сучасных мастацтваў дзейнічала некалькі святочных пляцовак: дзеткі малявалі на сценах акварэльнымі фарбамі, гулялі ў настольныя гульні. На адной з пляцовак было арганізавана невялічкае кафэ, дзе маленькія ўдзельнікі свята ў каляровым інтэр'еры частаваліся гарбатай з печывам, а ў фотазоне працаваў прафесійны фатограф. Можна было таксама наведаць пакой маленькага чытача, знайсці там у скрынях шмат цікавых рознакаляровых кніг і на камфортных мяккіх крэслах разам з бацькамі апынуцца ў свеце казачных герояў.

У фестывалі ўзяло ўдзел дванаццаць вядомых тэатральных і музычных калектываў, сярод якіх — бэбі-тэатр «Бусы», творчая майстэрня Ганны і Паўла Харланчук-Южаковых «Горад сяброў», лялечны тэатр «БуСемаПа», дамашні тэатр «Калейдаскоп», тэатр лялек, святла і ценю «Дом сонца» і іншыя. У праграме свята побач з назвай кожнага спектакля быў пазначаны час паказу, узрост дзетак. Вялікая колькасць тэатральных калектываў дала магчымасць убачыць шмат самых розных спектакляў і вырашыць, на што варта ісці наступным разам.

Адзін з арганізатараў «Казачнага джэму» тэатральны крытык Аляксей Стрэльнікаў распавёў нашаму выданню пра канцэпцыю і асноўную ідэю тэатральнага свята:

— Фестываль арганізаваны па ініцыятыве артыстаў, якія займаюцца развіццём у Беларусі так званага бэбі-тэатра — для дашкольнікаў. У супрацоўніцтве з Цэнтрам сучасных мастацтваў і Цэнтрам эксперыментальнай рэжысуры падрыхтавана праграма, дзе заяўлены ўнікальныя тэатральныя калектывы, якія працуюць з дзецьмі на прафесійным узроўні. Мерапрыемствы прыдуманы так, каб маленькім гледачам было зручна і камфортна: невялікія аўдыторыі, магчымасць выбару заняткаў. Наш фестываль — гэта парк забаў для ўсёй сям'і, акцэнт мы зрабілі менавіта на сямейны адпачынак, каб дзеці і бацькі маглі больш часу праводзіць разам.

Таксама ў межах падрыхтоўкі да тэатральнага свята ў Цэнтры сучасных мастацтваў пры падтрымцы праекта «ЗаЧытанне» для бацькоў былі арганізаваны майстар-класы па розных «кніжных» тэмах. Спікеры праводзілі «казкатэрапію», расказвалі пра казкі розных краін і складаныя тэмы ў дзіцячай літаратуры, парэкамендавалі, як правільна дарыць кнігі.

**Вікторыя АСКЕРА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Намеснік галоўнага рэдактара
Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер

Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. В. Бізункова
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 15.10.2015 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1907.
Кошт у розніцу — 3900 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1493 г
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2015
© ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2015
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», 2015